ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 35 (2614)
ПЯТНІЦА
1
верасня 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

## СЁННЯ—ПЕРШЫ ЗВАНОК!



Многія былыя вучні настаўніцы 10-й Мінскай сярэдняй школы Ніны Іванаўны Белікавай, як пяецца ў песні, «ляцяць шляхамі зорнымі, плывуць марамі грознымі...» А гэтыя, што сёння, 1-га верасня, прынеслі кветкі любімай настаўніцы, яшчэ пачуюць з яе вуснаў шмат важнага, цікавага, незвычайнага...

Фота А. ЛУКАШОВА.

# ВЯЛІКІЯ ЗАДАЧЫ, ВЯЛІКАЯ АДКАЗНАСЦЬ

**Ігар ДАБРАЛЮБАЎ,**
рэжысёр студыі «Беларусьфільм»

Кінематаграфісты Беларусі, як і ўсе дзеячы мастацтва краіны, успрынялі Пастанову ЦК КПСС «Аб мерах па далейшаму развіццю савецкай кінематаграфіі» як важны партыйны дакумент і праграму творчай працы. Асабліва своечасовы заклік да больш актыўнай распрацоўкі праблем сучаснасці на экране. Шчыра кажучы, мы, работнікі кіно, і самі адчувалі і на сваіх дыспутах з трывогай адзначалі, што чалавек нашых дзён пакуль што не так часта займае цэнтральнае месца ў экранных творах і не з той сілай мастацкага паказу яго, як таго ён варты.

Куды ярчэй і па-сапраўднаму маштабна паказвае сучасніка дакументальны кінематограф. Сказаўшы гэта, я не сцвярджаю, што ўсе стужкі хранікальна-дакументальнага жанру дасканалыя. Але ў лепшых з іх ёсць творчая спроба і паказаць героя нашага часу, і асэнсаваць пэўныя з'явы жыцця, удзельнікам якога ён выступае як актыўны і свядомы будаўнік камуністычнага грамадства.

Няма ў такім сцвярджэнні і супрацьстаўлення мастацкага кіно дакументальчаму. Проста практыка апошніх гадоў сведчыць аб тым, што так званыя «ігравыя» фільмы нярэдка атрымліваюцца схематычнымі, павярхоўнымі. І ганаровая наша задача працаваць так, каб па мастацкіх стужках, створаных ў 70-я гады, не толькі сённяшнія гледачы, а і нашчадкі маглі скласці поўнае ўражанне аб нашым сучасніку. Пераканальны і яркі вобраз такога чалавека робіцца не толькі «чалавекам з экрана», ён атрымлівае правы быць прыкладам, дарадчыкам, сябрам для шматлікай арміі гледачоў. Твор з такім героем больш актыўна ўдзельнічае ў ідэалагічнай барацьбе за перамогу камуністычных ідэалаў.

Кінематаграфістаў радуе і хвалюе клопат партыі аб развіцці кінамастацтва. Гэты клопат падмацаваны канкрэтнымі арганізацыйнымі захадамі. Падкрэслена значэнне літаратурнай першакрыніцы фільма — сцэнарыя. Трэба спадзявацца, што прадугледжаныя Пастановай ЦК КПСС перспектыўнае планаванне, стварэнне Цэнтральнай сцэнарнай студыі, правядзенне конкурсаў і сістэма дзяржаўных заказаў прыцягнуць да ўдзелу ў вытворчасці кінастужак таленавітых пісьменнікаў. І тут вялікаму атраду беларускіх кінематаграфістаў, студыі і творчаму саюзу выпадае шмат што зрабіць, каб узняць на новую прынцыповую вышыню кантакты з пісьменніцкай арганізацыяй рэспублікі, з журналістамі.

Неабсяжная аўдыторыя збіраецца для знаёмства з творам экраннага мастацтва. Пастанова ЦК КПСС называе лічбу — 13 мільёнаў гледачоў штодзённа! Якая гэта высокая трыбуна і якая вялікая адказнасць кладзецца на тых, хто займае на ёй месца. Партыя нагадала нам аб гэтым яшчэ раз. І мы прыкладаем усе намаганні, каб хутчэй пазбавіцца ад недахопаў, пераадолець іх і выканаць задачы, вызначаныя важным партыйным дакументам 1972 года — Пастановай ЦК КПСС «Аб мерах па далейшаму развіццю савецкай кінематаграфіі». Будзем адказваць на яго справамі — яркімі творамі кінамастацтва, якое любяць мільёны.

# НАШЫ ГОСЦІ—МАСКОЎСКІЯ АРТЫСТЫ

Частыя госці працоўных Дзяржыншчыны — артысты з розных гарадоў краіны. «Вясёлыя старонкі» — з такой праграмай завіталі на гэты раз артысты Масканцэрта. Першае выступленне з удзелам вядомых выканаўцаў Віктара Горскага, Сяргея Паўлава, Ларысы Барысенка і Антаніны Анікінай адбылося ў раённым Доме культуры.

Назаўтра іх шлях ляжаў у сельскія клубы. З букетамі жывых кветак сустракалі маскоўскіх артыстаў жыхары вёскі Петкавічы калгаса імя Дзяржынскага. Калгаснікі расказалі пра свае працоўныя будні, пра барацьбу за ўраджай. Госці пабывалі на ферме, цікавіліся справамі жывёлаводаў. А вечарам хлебаробы сустрэліся з артыстамі ў сваім клубе.

Потым масквічы пабывалі на палетках калгаса «Беларусь», дзе сустрэліся і гутарылі з камбайнерамі. А вечарам яны далі цікавы канцэрт у Доме культуры.

За два тыдні гастроляў майстры сцэны выступілі перад хлебаробамі калгасаў «Мір», імя Кірава, імя Леніна, імя М. Горкага і інш.

**І. ШАБАЛІНСКІ.**

# У ЛІТАРАТУРНЫМ КЛУБЕ

Адбылося чарговае пасяджэнне літаратурна-дыскусійнага клуба «Узлёт» пры рэдакцыі докшыцкай раённай газеты «Ленінская трыбуна». Яго ўдзельнікі абмеркавалі Пастанову ЦК КПСС «Аб літаратурнай крытыцы». Для ажыццяўлення гэтай пастановы вырашана стварыць пры клубе секцыю літаратурнай крытыкі.

Займацца ў секцыі выказалі жаданне Аляксандр Дзічыкаў, Мікалай Печань, Віктар Чучман і іншыя літаратары-пачаткоўцы. На першых занятках разгледжана тэма «Літаратура як від мастацтва».

**А. ГАПАНЁНАК,**
старшыня савета клуба.
г. Докшыцы.

# НАСУСТРАЧ ЮБІЛЕЮ

Як правесці тэматычны вечар, вусны часопіс або дзіцячы ранішнік, прысвечаны 50-годдзю ўтварэння СССР? На гэтыя і іншыя пытанні работнікаў культуры дае кваліфікаваныя адказы метадычная літаратура, якую выпускае Віцебская абласная бібліятэка.

Што гэта за дапаможнікі? Адзін з іх, складзены навукова-метадычным аддзелам бібліятэкі, раіць, напрыклад, як рыхтаваць вечар паэзіі «Пяю маю Айчыну», як правесці канферэнцыі чытачоў па раманах А. Ганчара «Тронка», І. Шамякіна «Сэрца на далоні», М. Аўэзава «Шлях Абая», аповесці Я. Коласа «Дрыгва», паэме А. Твардоўскага «За даллю—даль». Можна прачытаць кароткія нататкі пра творчасць гэтых пісьменнікаў, вылучыць пытанні, на якія варта звярнуць увагу, рыхтуючы абмеркаванне названых твораў.

Другі дапаможнік вучыць маладога бібліятэкара, як наладзіць вусны часопіс «Савецкая Беларусь». Пяць старонак у гэтым часопісе— расказы пра нашу рэспубліку, пра яе поспехі ў развіцці эканомікі і культуры, пра новабудоўлі дзевятай пяцігодкі, багацці нетраў нашай зямлі. Чацвёртая старонка паэтычная. Удзельнікі вечара прачытаюць вершы паэтаў братніх рэспублік пра Беларусь. І завяршыцца вечар песнямі. Прыхільна сустрэнуць работнікі школьных і дзіцячых бібліятэк сцэнарый ранішніка для вучняў 4—5 класаў «15 рэспублік — 15 сясцёр».

У гэтай жа распрацоўцы падаецца праграма літаратурна-музычнага вечара «Мая Айчына—СССР», разлічаная на вучняў 6—8 класаў.

Аддзел мастацтва бібліятэкі прапануе свае парады да тэматычнага вечара «Слава рабочым рукам». Прапануецца вялікі спіс літаратуры для чытальнікаў і аматараў музыкі.

Чарговую лістоўку, прысвечаную творчасці пісьменнікаў-землякоў, выпусціў аддзел беларускай і краязнаўчай літаратуры абласной бібліятэкі. Лістоўка расказвае аб творчым шляху Еўдакіі Лось, называе кнігі, якія напісала паэтэса.

# ЦЕПЛАХОД «Якуб КОЛАС»

*Імя народнага паэта Беларусі Якуба Коласа прысвоена пасажырскаму цеплаходу тыпу «Беларусь» Верхнедняпроўскага рачнога параходства. Рашэнне аб гэтым прыняў Савет Міністраў Беларускай ССР у сувязі з 90-годдзем з дня нараджэння паэта.*

*Цеплаход «Якуб Колас» — навейшае 40-меснае пасажырскае судна на падводных крылах, пабудаванае карабеламі Гомельскага суднабудаўніча-суднарамонтнага завода. Ён курсіруе па Прыпяці на лініі Мазыр—Тураў.*

БЕЛТА.

# ПЕРАСОЎНЫЯ ВЫСТАЎКІ

Вялікую фотадакументальную выстаўку, прысвечаную 50-годдзю СССР, падрыхтавалі работнікі Гомельскага абласнога краязнаўчага музея. Выстаўка расказвае пра поспехі ў развіцці народнай гаспадаркі і культуры, пра тое, як выконваецца пяцігадовы план, пра лепшых працаўнікоў горада і вёскі.

З цікавасцю знаёміліся з ёю ўдзельнікі рэспубліканскага семінара па пытаннях гаспадаркі, ідэалагічныя работнікі Гомельшчыны.

Зараз выстаўка разгорнута ў вестыбюлі Дома Саветаў. Неўзабаве пачнецца яе падарожжа па раёнах вобласці.

Працоўныя Гомельшчыны падтрымліваюць цесныя, дружалюбныя сувязі з Паўднёва-Чэшскай вобласцю: абменьваюцца дэлегацыямі, выстаўкамі і г. д. У гэтыя дні ў горадзе Чэске-Будэйёвіцы гамяльчане арганізавалі выстаўку, у якой расказваецца пра поспехі хлебаробаў вобласці, рост культуры і дабрабыт калгаснай вёскі.

Адначасова з гэтай работай абнаўляецца экспазіцыя абласнога музея, прысвечаная слаўнаму юбілею краіны. Сабраны ўзоры новай прадукцыі прадпрыемстваў вобласці, удастоенай знака якасці, паказваюцца правафланговыя дзевятай пяцігодкі. У экспазіцыі знойдуць шырокае адлюстраванне поспехі калектыву Мазырскага нафтабуда.

# УСЕСАЮЗНАМУ ГЛЕДАЧУ—ПРА БЕЛАРУСЬ

Дзяржаўны музей БССР падрыхтаваў выстаўку «Савецкая Беларусь у адзінай сям'і народаў СССР», прысвечаную 50-годдзю ўтварэння Саюза ССР. Гэтая выстаўка прызначана для паказу ў Цэнтральным ордэна Леніна музеі рэвалюцыі СССР.

Аб'ёмная палітыка-адміністрацыйная і эканамічная карта нашай рэспублікі, каляровыя фатаграфіі, табліцы, дакументы і іншыя экспанаты адлюстроўваюць гістарычны шлях Савецкай Беларусі, яе ролю ў саюзе братніх рэспублік краіны і на міжнароднай арэне.

Значнае месца ў экспазіцыі адведзена матэрыялам аб ленінскай нацыянальнай палітыцы бальшавіцкай партыі і барацьбе за яе ажыццяўленне. Гледачы ўбачаць тэлеграмы У. І. Леніна, накіраваныя ім у свой час у Беларусь.

Шырока паказаны вялікія сацыяльныя і нацыянальныя пераўтварэнні, якія адбыліся ў Беларускай ССР у гады першых пяцігодак. Адлюстраваны векапомныя дні Вялікай Айчыннай вайны. Аб гэтым часе расказваюць карты-схемы, разнастайныя матэрыялы аб мужнасці сыноў і дачок беларускага народа, падпольны партыйна-камсамольскі друк, звесткі аб народных мсціўцах. Тут партрэты Герояў Савецкага Саюза, камандзіраў першых партызанскіх атрадаў Ц. Бумажкова, М. Шмырова, К. Заслонава, матэрыялы аб вызваленні рэспублікі ад гітлераўскіх захопнікаў Савецкай Арміяй.

Побач з фатаграфіямі і дакументамі, якія паказваюць БССР у перыяд камуністычнага будаўніцтва, стварэння матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізму,—карта новабудоўляў дзевятай пяцігодкі. У ліку экспанатаў мільярдны метр тканіны, выпушчаны аршанскім ільнокамбінатам да 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна. Арганічна ўвайшлі ў экспазіцыю мастацкія вырабы народных умельцаў.

Выстаўка красамоўна адлюстроўвае перад усесаюзным гледачом поспехі БССР у развіцці прамысловасці, сельскай гаспадаркі, навукі, культуры.

Паводле матэрыялаў БЕЛТА.

## У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА».

*Дазвольце мне праз газету «Літаратура і мастацтва» выказаць сваю шчырую, сардэчную падзяку ўсім таварышам і арганізацыям, якія павіншавалі мяне ў сувязі з шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння і атрыманнем урадавай узнагароды.*

**Р. В. КАНАВАЛАЎ.**

# НОВЫЯ ВЫДАННІ

Са студзеня наступнага года пачнецца выданне масавага літаратурна-крытычнага і бібліяграфічнага часопіса «Литературное обозрение». На мэтазгоднасць стварэння такога часопіса ўказвалася ў Пастанове ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы». «Литературное обозрение» — орган Саюза пісьменнікаў СССР, выдаваць часопіс будзе выдавецтва «Правда». Галоўным рэдактарам прызначаны Ю. І. Сураўцаў.

У рэдакцыі «Литературного обозрения» наступныя аддзелы: рускай савецкай літаратуры, літаратур народаў СССР, зарубежных літаратур, «Літаратура і чытачы».

Часопіс прызначаецца для шырокіх чытацкіх колаў горада і вёскі, для рабочых і студэнтаў, настаўнікаў і журналістаў, для ўсіх, хто цікавіцца мастацкай літаратурай.

●

Са студзеня 1973 года пачне выходзіць новая газета Цэнтральнага Камітэта КПСС— «Советская культура».

Газета «Советская культура» будзе асвятляць асноўныя праблемы развіцця сацыялістычнай культуры — тэатра, кіно, выяўленчага, музычнага і харэаграфічнага мастацтва, тэлебачання і радыё, кнігадрукавання, культуры быту, дзейнасці творчых саюзаў і культурна-асветных устаноў, кінаабслугоўвання, садзейнічаць развіццю ўсіх відаў мастацкай самадзейнасці, народных мастацкіх промыслаў і рамёстваў.

Выданне газеты «Советская культура» ўскладзена на выдавецтва «Правда».

Газета будзе выходзіць тры разы ў тыдзень, аб'ёмам восем палос фармата «Правды». Падпісаная плата на газету за год— 7 рублёў 80 капеек, цана за экземпляр—5 капеек.



Некалькі дзён выступаў у Мінску эстрадны калектыў Чэхаславакіі. Салісты маладога калектыву Марта Данаткава, Бажэна Медкава, Іржы Прон, Здэна Ларэнцава, Іржы Грамадка і Йозеф Цітц выконвалі песні чэхаславацкіх і савецкіх кампазітараў у суправаджэнні інструментальнага ансамбля. Мастацкі кіраўнік ансамбля—Ладзіслаў Бязубка.

На здымку — выступае Бажэна Медкава.

Фота Ул. КРУКА.

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю



# СЕЯЦЬ РАЗУМНАЕ, ДОБРАЕ, ВЕЧНАЕ

*На пытанні карэспандэнта «Літаратуры і мастацтва» адказвае першы намеснік міністра асветы БССР Г. І. КАНЦАВАЯ*

НАПЯРЭДАДНІ новага навучальнага года я сустрэўся з першым намеснікам міністра асветы БССР Ганнай Іванаўнай Канцавой і папрасіў яе адказаць на шэраг пытанняў, звязаных з сённяшнім днём беларускай школы, яе задачамі і клопатам.

— Перш за ўсё, — гаворыць Ганна Іванаўна,— ад імя беларускіх настаўнікаў я б хацела падзякаваць Камуністычнай партыі, Савецкаму ўраду за чарговае павышэнне зарплаты настаўнікам. Гэта абавязвае ўсіх нас працаваць з яшчэ большай аддачай.

А цяпер пра нашы справы. Першага верасня за парты 9956 школ рэспублікі сядзе 1 мільён 686,6 тысячы вучняў. У гэты дзень у класныя аўдыторыі ўвойдуць больш як 100 тысяч настаўнікаў. Пераважная большасць іх мае вышэйшую педагагічную адукацыю або займаецца завочна ў вышэйшых навучальных установах.

Жнівеньскія настаўніцкія канферэнцыі, якія прайшлі ва ўсіх раёнах рэспублікі, паказалі, што нашы школы добра падрыхтаваліся да новага навучальнага года.

— Ганна Іванаўна, «Літаратура і мастацтва» шмат пісала аб праблемах выкладання ў школе літаратуры, эстэтычнага выхавання вучняў. Што вы можаце сказаць па гэтым пытанні?

— Калегія міністэрства ў свой час прыняла рашэнні аб паляпшэнні выкладання літаратуры, спеваў і малявання. У прыватнасці, што датычыць рускай і беларускай літаратур, дык тут перагледжаны праграмы. У іх уключаны новыя пісьменніцкія імёны, і, наогул, націск зроблены на вывучэнне мастацка-ідэйных вартасцей кожнага твора, іх выхавальнае значэнне.

Нас не зусім задавальняюць некаторыя падручнікі, прынамсі, па беларускай літаратуры. Быў праведзены конкурс на новы падручнік па беларускай літаратуры для 8—10 класаў. Лепшым быў прызнаны рукапіс Рыгора Шкрабы. Мы спадзяёмся, што на яго аснове ў бліжэйшы час наша школа будзе мець добры падручнік.

А цяпер наконт эстэтычнага выхавання. Разам з Саюзамі кампазітараў і мастакоў мы распрацавалі шэраг мерапрыемстваў, накіраваных на паляпшэнне выкладання ў школе спеваў і малявання. Мне здаецца вельмі перспектыўным стварэнне пры школах музычных і харавых студый, студый па выяўленчым мастацтве. Арганізуюцца яны на грамадскіх асновах на сродкі бацькоў. Вельмі добра зарэкамендавала сябе музычна-харавая студыя пры Мінскай сярэдняй школе № 1, дзе летась займалася каля 400 вучняў. На аснове студыі гэтая школа з сёлетняга года рэарганізуецца ў школу з музычна-харавым ухілам.

26-я сярэдняя сталічная школа арганізуе навучанне з мастацкім ухілам.

З музычным ухілам працуе 102-я сярэдняя школа ў Мінску і 28-я ў Гомелі. Харавыя студыі працавалі ў дзвюх брэсцкіх, адной віцебскай і адной магілёўскай школах. А з гэтага года дзве такія студыі будуць арганізаваны пры дзвюх мінскіх і адной наваполацкай школах.

— Гэта ўсё ў гарадскіх. А ў вясковых? Нам пішуць, што ў некаторых перыферыйных школах спевы і маляванне выкладаюць людзі, якія не маюць спецыяльнай падрыхтоўкі. Выкладанне гэтых прадметаў там размяркоўваюць паміж настаўнікамі, як дадатак да асноўнай нагрузкі.

— Такія факты маюць месца,— згаджаецца Ганна Іванаўна. — Ёсць на гэта пэўныя аб'ектыўныя прычыны. На спевы і маляванне адпускаецца па адной гадзіне ў тыдзень. У невялікай вясковай школе, дзе ўсяго 80—100 вучняў, паспрабуйце забяспечыць поўнай нагрузкай дыпламаванага настаўніка малявання. А нагрузка — гэта ж яго зарплата. Выйсце, нам думаецца, ва ўзбуйненні дробных вясковых школ. Лепш мець на некалькі вёсак адну буйную школу, дзе можна наладзіць паўнацэнны навучальны працэс. Вы скажаце, што гэта стварае пэўную нязручнасць для вучняў, якім давядзецца далёка хадзіць. У рэспубліцы ў многіх месцах практыкуецца падвоз вучняў рэйсавым транспартам. Заўсёды можна арганізаваць для гэтай мэты і калгасныя ці саўгасныя аўтамашыны. Наогул жа многія вясковыя школы маюць вопыт арганізацыі інтэрнатаў, якія сябе добра зарэкамендавалі.

— У нарысе беларускай пісьменніцы Веры Палтаран «Дзівасіл», за які яна ў свой час атрымала Дзяржаўную прэмію БССР, расказваецца, прынамсі, і пра нялёгкую працу вясковых настаўнікаў. Многія з іх не маюць ні хвіліны вольнага часу, каб пачытаць, схадзіць у кіно, наогул быць у курсе навін. Усё забірае школа і ўласная гаспадарка — гарод, карова, свінні... Не паспела даць жывёле, як трэба бегчы на ўрокі, а там галаву свідруе неспакой, што гарод не прапалаты, бялізна не памыта... Адным словам, як кажуць, быт заядае. Што можа даць такая настаўніца вучням...

— Я чытала гэты нарыс і, — гаворыць Ганна Іванаўна, — павінна сказаць, што пісьменніца мела рацыю. Але сёння гэта ўжо не тыповая з'ява. Ва ўмовах жыцця вясковых настаўнікаў адбыліся станоўчыя змены. Некалькі дзён таму я вярнулася з Іўеўскага раёна. Пабывала там у некаторых вясковых школах, у прыватнасці, у Чарнельскай. Вельмі добрая школа, у многім не саступіць і якой сталічнай. І настаўнікі выдатныя — інтэлігентныя, эрудзіраваныя. Усе яны добра забяспечаны матэрыяльна, і нікому з іх не трэба абзаводзіцца ўласнай гаспадаркай. Так жывуць сёння настаўнікі большасці вясковых школ.

— А як з праблемай настаўніцкіх кадраў на вёсцы?

— Праблема такая існуе, хаця яна і не такая вострая, як некалькі гадоў раней. Думаю, у бліжэйшы час яна будзе вырашана. З гэтага года ўсе педагагічныя інстытуты рэспублікі — іх шэсць — пяройдуць у сістэму Міністэрства асветы. Мы зможам больш актыўна ўплываць і на прыём студэнтаў, на размеркаванне, нарэшце, на навучальны працэс. Так, у прыватнасці, перавага пры прыёме ў інстытут будзе аддадзена абітурыентам з аддаленых раёнаў. Вельмі перспектыўным нам здаецца набыццё ў інстытуце будучым настаўнікам дзвюх спецыяльнасцей. Скажам, гісторык-географ або матэматык-фізік і г. д. Першыя крокі ў гэтым напрамку ўжо зроблены.

— Стала банальнай сітуацыя,— кажу я, — калі адзін едзе ў вёску (хоць бы той жа малады настаўнік), а ў гэты час тры (учарашнія дзесяцікласнікі),—з вёскі, ды назаўсёды. Ці не вінавата ў гэтым трохі і школа?

— Неяк у нас стала ўжо звычкай меркаваць аб рабоце школы толькі па тым, колькі яе выпускнікоў паступіла ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Аднойчы я пабыла ў адной вясковай школе, кіраўнікі якой з гонарам расказалі мне, што ледзь не дзве трэці іх выпускнікоў паступілі ў інстытуты. Інстытут, вядома, добрая справа. Але я пацікавілася, як склаўся лёс астатніх. Аказалася, што ўсе раз'ехаліся па розных гарадах, у вёсцы ж не засталося ніводнага. Міграцыя моладзі ў горад—справа натуральная, нарэшце, прамысловасці неабходны пастаянны прыток маладых рук. Але ж і вёска не можа абысціся без маладых адукаваных людзей. Відаць, у некаторых школах слаба арыентуюць моладзь у патрэбным кірунку... Трэба папракнуць і кіраўнікоў асобных калгасаў і саўгасаў, дзе слаба працуюць з моладдзю, не ўмеюць яе па-сапраўднаму зацікавіць, даць работу з улікам адукацыі і здольнасцей маладых людзей, тым больш, што моладзі з закончанай сярэдняй адукацыяй у нас з кожным годам будзе станавіцца ўсё больш.

— Як ажыццяўляецца пастанова ўрада аб паступовым пераходзе да абавязковай сярэдняй адукацыі ў рэспубліцы?

— Зараз у нас такая карціна— 87 працэнтаў вучняў, якія скончылі восем класаў, вучацца далей. Значная колькасць паступае ў прафесійна-тэхнічныя вучылішчы. Ставіцца пытанне, каб пры кожным вучылішчы, якое сярэдняй адукацыі не дае, ствараць вячэрнія школы з тым, каб навучэнцы вучылішча разам з дыпломам маглі атрымаць і агульную сярэднюю адукацыю.

Наша гутарка завяршаецца. Ад імя чытачоў «Літаратуры і мастацтва» мы жадаем Г. І. Канцавой, а ў яе асобе ўсім настаўнікам рэспублікі вялікіх поспехаў, вялікіх здзяйсненняў у іх высакароднай місіі сеяць разумнае, добрае, вечнае, выхоўваць сапраўдных будаўнікоў камунізму.

**М. ЗАМСКІ.**

ПА ВЫСТАВАЧНЫХ ЗАЛАХ

# ПОДЫХ НАШАГА ЧАСУ

ДРУГУЮ рэспубліканскую выстаўку сваіх работ беларускія плакатысты прысвячаюць 50-годдзю ўтварэння СССР. Экспазіцыя знаёміць з плакатамі, вырашанымі ў гераічным, сатырычным, гумарыстычным і лірычным плане.

Невычэрпная крыніца натхнення плакатыстаў Беларусі — ленінская тэма. Ей прысвечана серыя плакатаў Р. Маліноўскага: «З іскры разгарыцца полымя!», «Мы наш, мы новы свет збудуем», «Ленін», «У імя міру і прагрэсу чалавецтва».

Нялёгкую задачу паставіў перад сабою мастак. Вялікі змест, глыбокую ідэю ён абавязаны выказаць лаканічна. Р. Маліноўскі скарыстоўвае для ўвасаблення свайё задумы прыём буйнага плана. Гэты прыём памагае аўтару выразна перадаць мужны суровы твар рабочага, які павярыў ленінскай «Іскры», пайшоў шляхам змагання супраць прыгнёту царызму. Горда лунае над рабочым чырвоны сцяг. Гэты ліст—удача мастака.

Другі плакат з серыі нагадвае пра тых, хто са зброяй у руках у гады грамадзянскай вайны адстойваў права будаваць новы, нязведаны свет—дзяржаву рабочых і сялян.

У Ленінскім партрэце перададзена непахісная воля, упэўненасць, смелы пагляд у будучыню.

Ліст, прысвечаны мірнай стваральнай працы нашага народа, — залішне перагружаны дэталямі. Касмічная ракета, магутныя домны, сучасныя карпусы фабрык і заводаў, контуры новабудоўляў. Словам — гэткі «зборны» сённяшні пейзаж. Увага гледача раскідваецца, яму мастак нічога не пакінуў на роздум. Падобная «шматслоўнасць» стамляе гледача, і плакат не дасягае мэты.

Мастакі І. Радунскі і І. Бланштэйн паказваюць ліст «Ажыццёўленая мара Ільіча». Перад намі Ленін — летуценнік, які бязмежна верыў у творчыя сілы народа. Калісьці правадыр марыў пра 100 тысяч трактароў. А сёння адзін Мінскі трактарны завод даў звыш дзевяцісот тысяч сталёвых машын. Мы бачым магутную лавіну тэхнікі, якую партыя, ажыццяўляючы ленінскі запавет, накіроўвае ў вёску.

Ленінская тэма адлюстравана ў работах П. Калініна, В. Ткачука, П. Лысенкі і іншых. Плакаты дыхаюць усхваляванасцю і шчырасцю мастакоўскага пачуцця. Іх аўтары імкнуцца падкрэсліць сувязь Леніна з народам, яго клопаты пра будучыню, сцвердзіць, што Ільіч — самы чалавечны чалавек...

Плакат—агітатар, прапагандыст. Выказваючы думкі і пачуцці народа, плакатыст заклікае гледачоў, натхняе на працоўныя подзвігі. Адпавядаюць гэтым патрабаванням плакаты І. Бялецкага «Ударным будоўлям — ударныя тэмпы», Ю. Кухарава «Калі ласка, у Беларусь!», В. Крукоўскага, Ул. Краскова і іншых.

Адзін з лепшых плакатаў на выстаўцы належыць В. Крукоўскаму. Ён лёгка «прачытваецца». Беражыце, ахоўвайце прыроду, яе багацце, яе прыгажосць! Вясна... Зямля напоена дажджамі. Палі, лугі і дубровы апрануліся ў свежы трапяткі зялёны ўбор. Такі агульны фон плаката. Мы бачым сілуэт чалавека, які прыручыў ласяня, да працягнутай рукі чалавека з даверам ляціць і галубок. Малюнак на дзіва гарманічны.

Сваю даўнюю работу паказвае мастак Л. Кроль. Гэта сатырычны плакат «Амерыка». Ён развенчвае рэкламаваную свабоду ў ЗША.

Уражвае плакат Ул. Краскова «Памяць загінуўшых б'е набатам». У традыцыйны плакатны матыў — дзве рукі, узнятыя ўгару, — мастак прынёс нешта сваё. Рукі нагадваюць злавесны атамны грыб... І званы Хатыні, і калючы дрот канцлагераў напамінаюць пра зверствы фашысцкіх нелюдзяў, заклікаюць да міру і жыцця...

Як водгук на падзею дня — плакат Р. Маліноўскага, прысвечаны 90-годдзю з дня нараджэння народнага песняра Янкі Купалы. Ліст гэты не перагружаны дэталямі, лаканічны.

Здаецца, даўно ўжо вычарпаны тэмы так званага «чырвонага календара», прысвечаныя Першамаю, гадавінам Кастрычніка, святу 8 Сакавіка, дням моладзі, абароны дзяцей, будаўніка і г. д. Але пошукі ў гэтым напрамку не спыняюцца і даюць плён.

Мастак Т. Ігнаценка прысвяціў свой ліст Першамайскаму святу. На вясновы парад міру і працы ідуць мільёны. Чырвоныя сцягі, плакаты. Пры традыцыйнай сімволіцы — індывідуальнае графічнае рашэнне. Цікава вырашаны мастаком і другі яго плакат, прысвечаны Дню медыцынскага работніка. На сінім чыстым фоне бачыш галоўку ў белым каўпаку з чырвоным крыжыкам. Гэта ўрач, медыцынская сястра і дзве чырвоныя кветкі — адзнака падзякі людзям у белых халатах, якія стаяць на варце здароўя савецкіх людзей.

Мастак любіць сіні і блакітны колеры. На гэтым фоне добра ўпісваецца чырвоны сцяг СССР і сцяг БССР. Лічбы 1918 — 1968 нагадваюць аб знамянальнай даце — 50-годдзі ўтварэння БССР і Кампартыі Беларусі.

50-годдзю ўтварэння СССР прысвечаны работы П. Калініна, Р. Маліноўскага, І. Крэйдзіка, Л. Кроля і іншых. Не ўсе яны аднолькавыя па мастацкіх якасцях, не кожнаму аўтару ўдалося пазбегнуць штампаў, якія, на жаль, паўтараюцца ў многіх плакатыстаў. На фоне сцяга, Дзяржаўнага герба, сярпа і молата або зоркі лёгка ўпісваюцца многія даты і лозунгі. Інакш вырашае юбілейную тэму мастак В. Філімонаў. Бачым «Дэкларацыю правоў народаў Расіі» і Леніна, які піша гэты гістарычны дакумент. Унізе справа — словы Ільіча: «Мы хочам добраахвотнага саюза нацый».



Сучасны плакат шырока карыстаецца разнастайнымі мастацкімі прыёмамі, шукае новыя сродкі вырашэння задумы, удасканальвае форму. Своеасаблівы трыпціх у народным лубачным плане прапануе мастак І. Капялян. Першы ліст — «Партыя адкрыла нам вочы, што сіла ў саюзе сялян і рабочых», другі — «Гэта Ленін навучыў, каб народ шчасліва жыў» і трэці — «Пра што некалі снілі, тое пры Саветах зрабілі». Удала выкарыстоўвае мастак колер. Ён умела падбірае тэкст — народныя прымаўкі.

У апошні час усё часцей скарыстоўваецца ў плакаце фотамантаж. Фотаздымак, арганічна ўплецены ў маляваную частку ліста, таксама пашырае мастацкія сродкі выяўлення задумы. Удала скарыстоўваюць фота мастакі І. Бялецкі і І. Радунскі.

Вялікі раздзел выстаўкі — так званы агітплакат, які працягвае слаўную традыцыю «Вокнаў РОСТА» і «Вокнаў ТАСС». Агітплакат — гэта нястомнае служэнне мастака штодзённым задачам дня. Яшчэ Маякоўскі пісаў, што стварэнне «агіткі» — далёка не простая, вартая павагі справа. У гэтым жанры многа і плённа працуюць мастакі М. Гурло, А. Чуркін, Л. Чурко і іншыя. З'явілася серыя плакатаў, у якіх выкрываецца антыграмадская сутнасць п'янства, алкагалізму, дармаедаў і абібокаў.

Ёсць на выстаўцы і афішы. Радаснаму, шматколернаму цыркавому мастацтву прысвяціў сваю работу мастак В. Каралькоў. Мы бачым толькі галаву тыгра і подпіс — прозвішча дрэсіроўшчыцы. Афіша запамінаецца. Уражваюць работы Ул. Васюка—«Рычард III» і І. Капяляна «Іяган Себасцьян Бах» да канцэрта лаўрэата міжнароднага конкурсу Алега Янчанкі.

Лепшыя работы беларускіх мастакоў будуць экспанавацца на Усесаюзнай выстаўцы плаката.

Час ставіць перад беларускімі мастакамі-плакатыстамі ўсё больш складаныя новыя задачы. Выстаўка сведчыць, што плакатысты Беларусі імкнуцца вырашаць гэтыя задачы як найлепш.

**Я. ДАНСКАЯ.**

# З ЛЕТАПІСУ ЎСЕНАРОДНАЙ БАРАЦЬБЫ

### ПРА РАМАНЫ УЛАДЗІМІРА КАРПАВА

ГЭТУЮ НАТАТКУ пра пісьменніка хочацца пачаць з агульнавядомых біяграфічных фактаў: Ул. Карпаў нарадзіўся на беразе шырокай Волгі, дзіцячыя гады правёў у невялічкім гарадку Хвалынску, дзе, апрача рускай гаворкі, міжвольна насычаўся, як кожнае дзіця, вірліва-плынным разнамоўем. У першыя паслякастрычніцкія гады, калі голад насунуўся на спустошаныя вайною, прыпаленыя сонцам прасторы Паволжа, калі жыць на месцы стала ўжо зусім невыносна, лёс прывёў Ул. Карпава ў Беларусь. У прыдняпроўскай вёсцы Ёлча, што на Камарыншчыне, жылося таксама не лёгка. Дзевяцігадовым падлеткам ён пасвіў свіней, вадзіў на начлег чужых коней — адным словам, рана спазнаўшы нястачу, зарабляў сабе сірочы хлеб. І зжываўся, радніўся з барамі і пушчамі, захапляўся мовай беларусаў. І таму прызнанне крытыка Я. Герцовіча, што «слоўнікавы запас у пісьменніка даволі багаты», гучыць сёння як вялікая пахвала. Мова твораў Ул. Карпава, як вядома, сакавітая, дакладная, па-мастацку выразная, ягонымі раманамі зачытваюцца, кожны новы твор сустракаецца з цікавасцю.

У сёлетні, юбілейны для Савецкай дзяржавы год гэтая біяграфічная акалічнасць набывае асаблівы змест.

Прываблівае і тое з жыцця Ул. Карпава, што некалі ён, скончыўшы сярэднюю школу, гартаваў характар і волю ў рабочым калектыве, працаваў на лесапільным заводзе ў Рэчыцы.

«Тады мне было семнаццаць, — успамінае пісьменнік.— Каб паступіць на завод, давялося выдаць сябе дарослым, прыпісаўшы год. Але і ў свае семнаццаць, адпрацаваўшы поўную змену, я, калі не хапала рабочых рук, грузіў вагоны лесам, прымаў удзел у штурмах, у суботніках ці завіхаўся на лесаскладзе каля штабялёў дошак...»

У пісьменніцкіх аўтабіяграфіях не часта вышукаеш падобную дэталь. І, мусіць, не адзін бы твор напісаў Ул. Карпаў пра рамантычна-ўзнёслы, багаты на энтузіястаў час, пра бескарыслівых, адданых справе партыі, новай яве людзей Рэчыцы, калі б не Мінск, не тое незвычайнае, што знітавала пісьменніка з лёсам сталіцы, дало найбагацейшы матэрыял, захапіла, акрыліла на творчасць. Хоць, на маю думку, тэтралогію «Нямігі крывавыя берагі», «За годам год», «Вясеннія ліўні» і «Сотая маладосць» можна без перабольшання назваць мастацкім летапісам не толькі аднаго горада, але і ўсёй рэспублікі. Шырыня закранутых праблем і глыбіня псіхалагічнай распрацоўкі вобразаў дазваляюць гаварыць пра высакароднасць аўтарскіх задум і маштабнасць здзяйсненняў.

Першы з тэтралогіі Ул. Карпава раман «Нямігі крывавыя берагі» быў напісаны задоўга да таго, як шырокай грамадскасці сталі вядомымі факты з гісторыі барацьбы мінскага антыфашысцкага падполля, у якой прымаў самы актыўны ўдзел і пісьменнік. Відавочца грозных падзей, ён у творы праўдзіва паказвае, якімі вытанчанымі, хітрымі і каварнымі былі гітлераўцы, як яны, пры ўсёй сваёй нечуванай жорсткасці, маскіраваліся пад «сяброў» беларускага народа, як гераічна дзейнічала партыйнае падполле, як уваскрасала яно пасля правалаў і няўдач, як зноў разгортвала барацьбу з ненавісным народу фашысцкім «новым парадкам».

«Чытаючы раман Ул. Карпава «Нямігі крывавыя берагі», — заззначае аўтар вядомых кніг пра мінскае падполле Іван Новікаў,— я добра зразумеў, як асабістае жыццё, асабістыя назіранні пісьменніка пераплаўляюцца ў мастацкую тканіну твора. Уладзімір Карпаў не з тых літаратараў, якія, «растекшись мыслию по древу», выдумляюць і баявыя эпізоды, і душэўныя перажыванні сваіх герояў. Ён не з тых, хто лічыць буйную, далёкую ад жыцця фантазію асноўнай крыніцай творчасці. Гартаю старонку за старонкай яго «Нямігу» і за кожным героем бачу жывы вобраз чалавека, які паслужыў прататыпам, бачу баявыя эпізоды, якія сапраўды адбываліся ў акупіраваным Мінску. Часта сустракаю знаёмага чалавека і тут жа ўспамінаю, што ён быў «натурай» для Карпава. Такі, напрыклад, былы баявы партызанскі камандзір Іван Дзёмін, які зараз працуе дырэктарам славутага Мінскага аўтазавода, такі Іван Цімчук, Герой Савецкага Саюза, цяпер персанальны пенсіянер, такіх многа.

Запамінальныя, рэльефныя ў Карпава вобразы камуністаў — кадравага рабочага Міхала Шарупіча і маладога інжынера Дзіміна.

Партыйны і прафсаюзны актывіст, дзелавы, цікаўны да ўсяго чалавек, Шарупіч і перад вайною быў перакананы, што ваяваць з фашызмам нам абавязкова давядзецца. Карпаў па-мастацку пераканаўча паказвае станаўленне характару Шарупіча, які адшуквае сваіх партыйных таварышаў і разам з імі аб'ядноўвае вакол сябе патрыётаў, як у гарачым пекле вайны хутчэй звычайнага выпрацоўвае ў сабе аналітычнае мысленне, амаль беспамылкова разбіраецца ў людзях і падзеях.

Характар Пятра Дзіміна таксама даецца ў развіцці. Даваеннае, бестурботнае для яго жыццё не прыву-

# ШЧЫРЫ МАНАЛОГ ПАЭТА

### ПРА «КНІГУ СТА ПЕСЕНЬ» КАСТУСЯ КІРЭЕНКІ

СВАЮ НОВУЮ кнігу вершаў Кастусь Кірэенка невыпадкова назваў «Кнігай ста песень». Некалькі год назад у сваей паэме «Іспанка» ён пісаў:

**Паэт марыць аб сонцы,**
**Цёплым, як шчасце.**
**І людзі марацъ аб шчасці,**
**Цёплым, як сонца.**
**Паэт марыць аб песні,**
**Што нясе радасць.**
**І людзі марацъ аб радасці,**
**Што дае песню.**

З'яднаўшы свае мары з марамі родных людзей, паэт ніколі не забываў аб чалавечай радасці і аб песні для чалавека. І недарма з такой прыхільнасцю чытачы сустрэлі новы твор К. Кірэенкі «Кнігу ста песень», якая падарыла і яшчэ не раз падорыць чытачам нямала радасных, хвалюючых мінут.

Зборнік лірычных вершаў — заўсёды своеасаблівы дзённік, які гучыць як шчыры, нястоены маналог аб тым, што паэта хвалюе. «Кніга ста песень» пабудавана менавіта па такім прынцыпе. Чытаеш старонку за старонкай і адчуваеш, колькі добрага, мужнага, душэўнага аддаў К. Кірэенка думкам і пачуццям свайго лірычнага героя. Ясна і па-сардэчнаму даступна вядзе ён размову пра веру ў жыццё, пра перамогу над смуткам расчараванняў, пра пачуцці любасці паміж людзьмі, пра высокае прызванне і месца чалавека на зямлі:

**Забараніце піць і есці—**
**Я ўсё сцярплю, перажыву.**
**Але на міг не дайце песні—**
**І я душу сваю парву.**
**Якой бы страшнаю пакутай**
**Жыццё ні ўздумала чарніць —**
**Адно хай мне пакіне: смутак,**
**Дзе песня ціхая звініць.**
**Не зломяць сэрца ні замовы,**
**Ні боль, ні лютая бяда,**
**Пакуль магу ісці і словы**
**У песні любыя складаць.**

Чытаючы новыя вершы аўтара, ясна адчуваеш іх паэтычную закончанасць і цэльнасць. У адзінстве, цэльнасці думак і пачуццяў жыве лірычны герой «Кнігі ста песень». Вось ён вядзе надзвычай дасціпны і ўдумлівы, зразумелы і блізкі кожнаму, маналог аб сыноўняй любові да роднага кутка зямлі:

**Парог бацькоўскай мілай хаты,**
**Як ты мне снішся! Як завеш**
**З тых дзён, калі дыханнем мяты**
**Правёў за пырнік родных месц!**

Проста, лаканічна выказана думка паэтам, але як хвалююць і колькі роздуму прыносяць чытачу гэтыя, здавалася б, звычайныя радкі.

Або вось глыбока чалавечны роздум аб каханні, аб яго чарадзейным і разам з тым трапяткім харастве, якое трэба шанаваць і берагчы:

**Каханне ходзіць толькі горда,**
**Але балюча боль нясе.**
**Бо сэрца, хоць і будзе цвёрдым,**
**А крыўды вынесе не ўсе.**

Чытаючы такія радкі, адчуваеш і бачыш лірычнага героя — чалавека то радаснага і шчаслівага, то задуменнага ў шчырым смутку. Але заўсёды гэта чалавек горды і заўсёды непакорны ў сваім пошуку. Нельга не заўважыць, што лірычны герой кнігі непарыўна знітаваны з самім паэтам. Гэта адно гарачае, чулае сэрца, адна глыбокая душа. У лірычнай усхваляванасці кожнага верша — пазіцыя мастака-грамадзяніна, яго адносіны да вялікага света і да кожнага чалавека паасобку. Паэт ясна ўсведамляе адказнасць свайго паэтычнага слова перад той барацьбой, якую вядзе чалавек за сваё бясконца дарагое жыццё:

**Хоць як шалеюць злыдні свету,**
**Хоць як вярзуць на нас і час—**
**Ісці на свой маяк да мэты—**
**Такі ў паэта свой наказ.**

Чалавек у сталым узросце, калі ён патрыёт і грамадзянін, не можа не задумвацца аб тым, якімі будуць яго нашчадкі, хто будзе далей тварыць і ахоўваць родны свет, што чакае чалавека ў будучыні. Багата пра гэта роздуму і ў кнізе Кастуся Кірэенкі. Нельга без хвалявання чытаць зварот паэта да моладзі:

**Жывіце мудра і шырока**
**І добра памятайце век:**
**Што калі лётаць—дык высока**
**Заўсёды прагнуў чалавек.**

У многіх радках кнігі ўлоўліваеш і трывожныя ноты, бо размова ідзе аб лёсе нашага свету. У гэтых нотах чуецца часам сум чалавека перад незваротнасцю юнацтва і маладосці, перад тым, што кожнага чакае на яго звычайным чалавечым шляху. І ўсё ж нават тут чуецца ўпэўненасць і бадзёрасць. Паэт заяўляе, што яму хораша жыць у гэтым свеце, нягледзячы на ўсе складанасці і супярэчнасці. Неспакойна, трывожна, але — добра.

**Я жыць хачу, хачу смяяцца,**
**Я прагну—значыць, я магу!**

З удзячнасцю да аўтара перачытваеш сто кароткіх, але такіх змястоўных песень і шчыра верыш паэту, калі ён на развітанне гаворыць:

**Пакуль дыханне ёсць у сэрцы,**
**Пакуль пячэ душу агонь —**
**Ніхто не спыніць спеў, паверце,**
**Не спыніць,—хоць і кулю**
**ў скронь.**

З цыклам ста песень цесна звязаны і другі раздзел кнігі, які паэт назваў «Далёка ад дому». Тут змешчаны вершы, якія нарадзіліся ў выніку зарубежнай паездкі паэта за акіян — у ЗША.

Пачуццё бясконцай любасці да нашай радзімы гучыць у вершы пра самотную, поўную жалобнае скаргі песні негра, і ў вершы пра беларускую песню «Рэчанька», якую паэту пяюць нашы землякі, што калісьці даўно-даўно цяжкім лёсам былі закінуты ў Амерыку, і ў вершы «Дамоў» — гімне шчаслівага вяртання на радзіму.

Вельмі характэрны для цыкла «Далёка ад дому» верш «З пісьма дадому». У ім у яркай паэтычнай форме скандэнсаваны самыя найлепшыя патрыятычныя пачуцці аўтара:

**Пацалую вербаў дым і сіні гром,**
**Пацалую горкі пыл сцяжын**
**паміж жытамі.**
**Над сівымі чаратамі**
**Узыду вясёлкавым багром,**
**Пад вясновымі вятрамі,**
**Калі трэба майму краю,**
**стану кропляй, стану роскай**
**над лістамі.**
**А яшчэ і каменем, і жвірам**
**стаць магу,**
**Пакладуць няхай мяне**
**ў падмурак мураваны.**
**А адтуль, усхваляваны,**
**Увальюся ў веснавы глыбіняў**
**гул.**
**А яшчэ,—зачараваны,**
**Стаць гатоў дарогай—**
**хай ідуць па мне нашчадкі**
**ў шлях наканаваны.**
**Не пытайце ж, дарагія,**
**як пісаўся гэты ліст.**
**За туманам, за кляцьбой,**
**за рогатам Гудзона—**
**З ціхім шэптам, з ціхім звонам**
**Лепш няхай у гэту хвілю ўбачу**
**любых меж абрыс,**
**Лепш душою улюбёнай**
**Хай пачую ў гэту хвілю**
**песню дзеда—**
**як ляцеў казак з палону...**

Пра Амерыку ў беларускай паэзіі ёсць нямала ўдалых вершаў такіх паэтаў, як П. Броўка, А. Куляшоў, М. Танк, П. Панчанка. Прыемна адзначыць, што Кастусь Кірэенка не паўтарыў іх матываў, знайшоў свае адметныя пранікнёныя словы, каб выказаць чытачу свае ўражанні аб непрымальным для нашага сэрца жыцці ў заакіянскай краіне...

Многія з кніг Кастуся Кірэенкі ўжо знайшлі сваё жыццё і сваё адметнае месца ў сэрцах многіх і многіх аматараў паэзіі. Сапраўдную чалавечнасць, высокі прыліў грамадзянскіх пачуццяў нясе новы твор К. Кірэенкі «Кніга ста песень» — шчыры, ўсхваляваны маналог паэта перад сваімі сучаснікамі.

Л. БЕСПРАЗВАНАЯ.

# ПЯСНЯР ШЧАСЛІВАЙ ДЗЕТВАРЫ

### ПРА КНІГІ ВАСІЛЯ ВІТКІ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

ПАЭЗІЯ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ павінна быць натуральнай, як смех дзіцяці, і мудрай, як само жыццё. Такой яна паўстае ў творах Васіля Віткі.

Васіль Вітка — адзін з тых нямногіх цяпер у нас, хто добра ўсведамляе больш чым складаныя задачы творчасці для дзяцей, пра каго можна сказаць словамі Бялінскага, што ён нарадзіўся дзіцячым паэтам.

Ад твора да твора ў перыядычных выданнях, ад кнігі да кнігі — а напісана ім нямала з часу з'яўлення ў 1948 годзе яго першай дзіцячай кніжкі «Вавёрчына гора» — рос яго талент — талент пранікацца непаўторнымі радасцямі і клопатамі дзяцей, бачыць свет і ўсё, што адбываецца ў ім, вачыма дзіцяці і размаўляць са сваімі героямі нароўні, не прыкідваючыся малым.

Па кніжках паэта можна прасачыць і станаўленне яго творчага перакананя — не падцягваць малых гвалтоўна і заўчасна да ўзроўню дарослых, гэта прыйдзе само, паступова, натуральна. Але — напаўняць жыццё нашых дзяцей цікавым і разумным зместам, дапамагаць ім — у адпаведнасці з узростам — своечасова рабіць для сябе патрэбныя адкрыцці ў навакольным свеце (дзеці так або іначай на кожным кроку робяць для сябе розныя адкрыцці і вельмі часта — непажаданыя, якія ўплываюць на іх адмоўна) і тым самым неназойліва, тактоўна, непрыкметна фарміраваць іх эстэтычны густ у патрэбным кірунку.

Вернасць творчай пазіцыі паэта і моц яго таленту пацвярджаюцца тым, што героі яго кніжак жывуць актыўным літаратурным жыццём, асабліва яго вясёлы, няўрымслівы, непаседлівы Вася Вясёлкін, сустрэцца з якім можна часта і на школьнай аматарскай сцэне, і ў эфіры — у перадачах радыё для дзяцей, і сам-насам з юным чытачом.

Новая кніга В. Віткі «Чытанка-маляванка» ніколькі не паўтарае папярэдніх. У ёй па-новаму, свежа і глыбока раскрыўся талент паэта — тонкага знаўцы дзіцячай душы, удумлівага педагога і проста вельмі добрага чалавека. Дарэчы, і афармлена яна мастаком А. Луцэвічам з вялікім густам. У яркіх, ха-

чыла Дзіміна да самастойных дзеянняў. Дзімін і сумленны, і шчыры. Ды гэтага, аказваецца, вельмі мала чалавеку ў грозны для Айчыны час. Паступова і няўхільна гартуе Шарупіч волю Пятра, вучыць змагацца і перамагаць.

Шмат гераічных спраў здзяйсняюць за гады вайны Міхал Шарупіч, Пётр Дзімін і шматлікія іх таварышы па змаганні — падпольшчыкі і партызаны.

Пасляваенны Мінск для пісьменніка Ул. Карпава — нешта вельмі роднае, самае запаветнае, для ўласнай радасці адваяванае, дзе немагчыма жыць і не ствараць.

У рамане «За годам год», які, дарэчы, быў дэбютам Уладзіміра Карпава ў вялікай прозе, пісьменнік запамінальна малюе вобраз Івана Зімчука, былога камісара партызанскай брыгады, на долю якога выпала аднаўляць разам з тысячамі патрыётаў-паплечнікаў па змаганні сталіцу Беларусі. Малюе праўдзіва, не ўтойваючы памылак героя, не прыгладжваючы рэчаіснасці.

У рамане «Вясеннія ліўні» пісьменнік паказвае, што нават пасля гістарычнага XX з'езда нашай партыі, калі былі адноўлены ленінскія нормы кіравання дзяржавай, не адразу ўсё стала на месца. Старыя звычкі і памылкі самі па сабе не адміраюць. Таму нейкі час на вытворчасці каламуцяць людзі тыпу Кашына. Таму Міхал Шарупіч — прафорг цэха — шмат на якіх старонках рамана выглядае бязвольным, нерашучым.

Усё гэта было ў жыцці: агульшчына, перастрахоўка, скоўванне народнай ініцыятывы, ганьбаванне сумленных людзей. І Ул. Карпаву ніяк не адмовіш у праўдзівым адлюстраванні рэчаіснасці канца пяцідзесятых гадоў. І ў гэтым публіцыстычная вастрыня рамана «Вясеннія ліўні».

Новыя творчыя мажлівасці выявіў Ул. Карпаў у рамане «Сотая маладосць», тэму якога сфармуляваў вельмі проста: «Чалавек і яго час, адказнасць кожнага з нас перад часам, залежнасць чалавека ад часу».

Нястомны ў сваіх пошуках, настойлівы ў барацьбе за новае, перадавое архітэктар Васіль Пятровіч Юркевіч. Ён ненавідзіць кар'ерыстаў, прайдзісветаў, якія працуюць не галавою, а локцямі, каб трапіць у вучоны савет, якія кампраметацыяй другіх, крыкам дабіваюцца сабе даброт, высокіх пасад. Побач з ім духоўна сталее яго жонка Валя... Вялікадушшам, шчырасцю, чысцінёю вызначаецца каханне Віктара Сердзюка і Лёдзі Шарупіч...

Пісьменнік Ул. Карпаў — часты госць рабочых і калгаснікаў. У адным толькі Мінску за апошні час адбылося больш дзесяці канферэнцый па яго кнігах.

Маштабнасць бачання, глыбокае пранікненне ў сутнасць з'яў, сучаснасць мыслення пісьменніка прываблiваюць да сябе шматлікіх чытачоў, дапамагаюць ім у жыцці і працы. І ў гэтым таксама своеасаблівасць і прывабнасць творчасці Ул. Карпава.

**Валянцін МЫСЛІВЕЦ.**

---

...рактарных малюнках, якія цалкам апраўдваюць другую частку назвы кнігі, але не капіруюць змест, хутчэй — дапаўняюць яго, нязменна прысутнічае гумар, добразычлівая ўсмешка, так уласцівая паэзіі В. Віткі.

Што ўражвае — шматтэмнасць кнігі, багацце фарбаў, інтанацый, рытмаў, яе жыццярадасны настрой, які струменіць, здаецца, з кожнага радка, з кожнага слова.

Паэт дакладны ў вызначэнні свайго адрасата. Жанравыя і стылявыя асаблівасці кнігі выкліканы ўзростам чытачоў, праўдзівей — слухачоў, іх духоўнымі патрэбамі. Гэта дашкольнікі — той узрост, калі толькі зроблены першыя крокі ў жыцці і ўсё навокал здаецца павялічаным, кантрастным, уражлівым, калі адбываецца інтэнсіўнае пазнанне свету і слова мае амаль матэрыяльную, магічную сілу.

На першы погляд можа здацца, што паэт не дае дзецям нічога новага. Ён аперыруе тымі паняццямі і вобразамі, якія ім добра вядомы, карыстаецца тымі сродкамі, якія выпрабаваны ў паэтычнай творчасці народа. Успомнім, што форма многіх фальклорных твораў для дзяцей патрабуе непасрэднага кантакту апавядальніка з тымі, хто яго слухае, выкананне звычайна суправаджаецца пэўнымі рухамі, рытуалам, напрыклад, калі спяваюць калыханку, гуляюць у ладкі і г. д. В. Вітка творча з поспехам выкарыстоўвае і традыцыйныя формы:

**Ладачкі-ладкі,**
**Дзе былі?— У бабкі.**
**Што пілі вы?— Малако.**
**А што елі?—Ко-ко-ко.**
**Доўга ж вы сядзелі,**
**Доўга пілі, елі.**
**А мы не сядзелі —**
**Цэлы дзень дурэлі.**
**Мы і заўтра пойдзем**
**Да бабулі нашай —**
**Абяцала бабка**
**Бярозавай кашы.**

Як бачым, гэтая прыгаворка з сюрпрызам. І такія сюрпрызы, сапраўдныя мастацкія знаходкі захаваны ў большасці вершаў. Дзеці любяць розныя нечаканасці, парадоксы, хуткую змену падзей. І ў гэтым выпадку, калі яны нават не ведаюць і даведаюцца толькі пасля, што такое бярозавая каша — не ў грубым фізічным сэнсе, вядома, — гэта не можа не ўзрушыць іх уяўленне, яны будуць дзівіцца і смяяцца.

Дзеці схільны пераймаць усё добрае, станоўчае, але (на бяду многім дзіцячым пісьменнікам) слаба рэагуюць на дыдактычныя павучанні. Дый што казаць, простая ўжытая мараль сапсуе настрой каму хочаш. Тым больш дзіця — яму трэба добры прыклад, павучальная сітуацыя, з якой яно само зразумела б, што такое добра і што такое дрэнна.

В. Вітка ў сваёй творчасці не пазбягае «бліжняй педагогікі» (І. Такмакова. «Детская литература», № 7, 1972), але ён рашуча ўнікае дыдактыкі, умела хаваючы мараль у дзеянне, у сутыкненне характараў, як у вершы «Сарочыны блінцы»:

**...Дзеці ўсе бліны паелі.**
**Шух, шух — паляцелі.**
**— Ну, а дзе ж, а дзе мой блін?—**
**Запытаў чацвёрты сын,—**
**Мама, дзе мой блінец?**
**— А табе няма.**
**Канец.**

Тут і без каментарыяў усё зразумела.

Вынікі адносін дзяцей да творчасці В. Віткі можа не заўсёды выявяцца адразу, умомант, але яны будуць — вынікі добрыя, плённыя. Яны выявяцца і на светаадчуванні будучых юнакоў і дзяўчат, а затым і дарослых людзей, на іх ідэйнай перакананасці, на іх культуры ў самым шырокім сэнсе і культуры мовы ў прыватнасці. Хіба могуць прайсці бясследна для дзіцяці такія моўныя дыяменты:

**Наша вострая піла —**
**Не піла,**
**А пчала.**

**Не піла,**
**Не ела,**
**Ні разу не прысела...**

Або:

**Рак поўз паўз барак,**
**Сустракае рака грак:**
**— Здароў, рак, дай руку,**
**У раку завалаку.**

У дачыненні да аўтара «Чытанкі-маляванкі» хочацца ўзнавіць ва ўсім аб'ёме і значэнні слова «майстар».

Магчыма, каму-небудзь такое здасца ідылічным і наіўным, але мне ён уяўляецца ў незвычайнай, светлай і чыстай кузні, з добразычлівай усмешкай на вуснах і звонкім малаточкам у руках, у акружэнні дзяцей, якія зачараванымі вачамі сочаць, як з-пад яго чароўнага малатка вылятаюць звонкія, зіхатлівыя, поўнаважкія словы, як яны складаюцца ў зграбныя маляўнічыя радкі. А крыху воддаль, аддаўшы дзяцей пад уладу добраму чараўніку, стаяць, здаецца, іх бацькі і таксама, з дарослай сарамлівай радасцю і здзіўленнем, глядзяць на яго работу, на яго чараўніцтва, якое вяртае ім напоўзабытыя вобразы маленства.

**Ул. АНІСКОВІЧ.**




Пятро ПРЫХОДЗЬКА



# СЫН КАМУНАРА

*УРЫВАК З ПАЭМЫ*

Мы ўсе з працавітага роду
Свае пачыналі шляхі,
І нас прыкрывалі ў паходах
Чырвоныя нашы сцягі.

Яны нас на подзвіг вадзілі,
Каб вечнаю славаю жыць.
Сцягі нашы — нашыя крыллі
І нашых франтоў рубяжы.

Праз бітвы іх неслі салдаты,
Каб дрэўка не выпусціць з рук...
Ішоў па зямлі
Год дваццаты,
Падковамі грукаў аб брук.

Тым часам,
Калі па зямлі ўсёй
Шугала віхура агнём,—
Ў будзёнаўца сын нарадзіўся
Аснежаным лютаўскім днём.

Не зведаў ён лютай напасці,
Яму ў самым раннім жыцці
Маломy тут выпала шчасце
У першай камуне расці.

У самыя звонкія вёсны,
Яшчэ не даросшы да мар,
Па сцежках, збіваючы росы,
Ужо бегаў малы камунар.

Яшчэ наша войска ў паходзе
Да Буга ішло па франтах,
А Ліпаўка-вёска
Ў тым годзе
На новы ўзыходзіла шлях.

Між пушчаў, палёў сінярунных
У панскім маёнтку былым
Стварылі сяляне камуну,
Каб лепей жылося усім.

Пад сцяг камунараў чырвоны
Уся вёска ўзнялася тады.
У шлеме баец ясназорны
Прыйшоў на радзіму сюды.

Ён быў да ўсяго вельмі чуйны,
Рашучы і шчыры душой.
І Пруднік Максім у камуне
Стаў першым яе старшынёй.

Сяляне палеткі аралі,
Касілі за лесам лужкі
Ля Бесядзі, дзе межавалі
Дзве вёскі у вусці ракі.

У вёсцы адной — сад багаты,
Прасторы палёў, квецень ліп,
Ў другой — каля кожнае хаты
Бядняцкіх калёс сумны скрып.

Калі смерць матулю скасіла,
А бацька шчэ быў у баю,—
Няшчасце на дзве падзяліла
Адну з гэтых вёсак сям'ю.

Звінелі ад песень салдацкіх
Дарогі, што з бітваў вялі.
Ды сын заставаўся без бацькі,
А бацька — без сына ўдалі.

І хлопчык сірочага лёсу
Глядзеў у бок вёскі другой.
Там бацька у Ліпаўцы-вёсцы
Кіруе камунай усёй.

Палеткі не маюць там межаў,
Купаюцца статкі ў траве.
Зямля і лясы там належаць
Усім, хто ў камуне жыве...

Не знаў яшчэ хлопчык
Пра лёс свой,
Ды сэрцам усім адчуваў,
Што там яго шчасце,
Ў той вёсцы,
Дзе бацька камуну ствараў.

Было і у дзеда няблага
Яму — сіраце-юнаку:
Начлежны касцёр і біклага
З вадой на зялёным лужку.

Над пожняю зорнае неба,
Пад небам палеткаў разбег.
Кавалачак сала і хлеба
Бабуля дала на начлег.

Прывык ён з маленства да дзеда,
Каня воранага яго.
Свае тут і радасці й беды.
Чаго ж яшчэ трэба, чаго?

Бор цёмны звініць, нібы струны,
Раздолле лугам і лясам.
Ды мроіцца хлопцу камуна,
Куды бацька зваў яго сам.

Там, кажуць, усё па-другому,
Нат лепшае жыта расце.
Далёка ж да бацькі, да дому,
Які на дзесятай вярсце.

У засені дзедавай хаты
Пражыў ужо колькі гадоў
З пары той, як бацька салдатам
З вайны грамадзянскай
прыйшоў.

●

Прамчалася тройка праз сёлы,
Праз рэчку, што ўецца ў лясках,
У Ліпаўцы, як навасёла,
Сустрэлі усе Васілька.

. . . . . . . . . . . . . .

Цяпер ты у Ліпаўцы-вёсцы
Не госць, Васілёк, а жыхар.
Забудзь аб вузенькай
палосцы,—
Прастор для здзяйснення ўсіх
мар.

Ты, ў працы, вучобе нястомны,
Рабі у жыццё першы крок.
У бацькі, ў былым панскім
доме,
Жыве камунар Васілёк.

## У НЯДЗЕЛЮ, 3 ВЕРАСНЯ — УСЕСАЮЗНЫ ДЗЕНЬ РАБОТНІКАЎ НАФТАВАЙ І ГАЗАВАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ

### БЕЛАРУСКАЯ НАФТА...

Гэтае словазлучэнне зрабілася ўжо звычайным, і мы ўжываем яго часта, не адчуваючы вастрыні і нечаканасці яго гучання.

Беларуская нафта! Сёння за гэтымі словамі не толькі радасць першаадкрыцця — за імі магутная хімічная і нафтаперапрацоўчая прамысловасць, за імі вялікі атрад беларускіх нафтавікоў, за імі дзесяткі невядомых дагэтуль на беларускай зямлі прафесій, за імі наш гонар, нашы поспехі, наша слава.

З усіх краёў Савецкай зямлі прыехалі на «беларускі нафтабуд» вопытныя спецыялісты, сапраўдныя майстры, каб дапамагчы беларускаму народу асвоіць новую галіну прамысловасці. Прыехалі, ды так і аселі ў краі беларускай нафты, на Гомельскім Палессі. Зараз на прадпрыемствах Рэчыцы і Светлагорска працуюць рабочыя і інжынеры больш як дваццаці нацыянальнасцей.

Беларускай нафце, слаўнаму атраду беларускіх нафтавікоў прысвяцілі свае лепшыя творы нашы паэты і кампазітары, празаікі і мастакі.

Малады графік Уладзімір Пашчасцеў зрабіў серыю графічных лістоў, у якіх расказаў пра жыццё і працоўныя подзвігі беларускіх нафтавікоў, пра іх унутраную прыгажосць і юнацкую жыццярадаснасць. Гэтая серыя экспанавалася на рэспубліканскіх і ўсесаюзных выстаўках.

Сёння, напярэдадні Дня работнікаў нафтавай і газавай прамысловасці, мы знаёмім нашых чытачоў з некаторымі замалёўкамі Ул. Пашчасцева, якія былі зроблены ў краі беларускай нафты.







---

У ГІСТОРЫІ музычнай культуры Беларусі ёсць адна знамянальная дата, непасрэдна звязаная з імем Якуба Коласа. Маецца на ўвазе опера «У пушчах Палесся» кампазітара Анатоля Багатырова, створаная паводле славутай аповесці «Дрыгва». Прэм'ера адбылася 28 жніўня 1939 года, праз паўгода пасля першага паказу на прафесійнай сцэне першай беларускай оперы «Міхась Падгорны» Я. Цікоцкага. Такім чынам, ёсць усе падставы гаварыць, што Якуб Колас, вялікі мастак, які ўзбагаціў амаль усе жанры літаратуры, даў плённы ўрок і музычнаму жанру, бо драматургія «У пушчах Палесся» была цалкам прадыктавана літаратурнай першакрыніцай. Больш таго — оперны спектакль ствараўся пры непасрэдным удзеле Канстанціна Міхайлавіча.

**Гартаю ў думках старонкі перажытага тады (мне давялося на той час быць дырэктарам опернага тэатра). Якая непаўторная атмасфера панавала ў калектыве, як зацікаўлена ставіліся да творчага пошуку кампазітара і opернай сцэны пісьменнікі, сябры і калегі Якуба Коласа! Яны былі, як кажуць, «сваімі людзьмі» ў тэатральным свеце, артысты — жаданымі гасцямі ўтульнага Дома пісьменнікаў. І калі пачаліся пошукі лібрэта для музычных твораў, прызначаных для пастаноўкі ў першым у гісторыі Беларусі прафесійным музычным тэатры, хтосьці назваў — Колас... «Дрыгва»...**

Загарэўся жаданнем пісаць оперу на гэты сюжэт цяпер вядомы кампазітар народны артыст БССР прафесар А. Багатыроў. Тады яго ўсе называлі працей — Толя, і вельмі любілі няўрымслівага бялявага юнака, паглыбленага ў музычны свет, маладога знаўцу народнай музыкі. Лібрэта напісаў Яўген Рамановіч. І летам 1937 года кампазітар паказаў ужо хор першага акта будучай оперы — адзін з лепшых, дарэчы, фрагментаў твора наогул: жаночыя галасы спяваюць празрыстую і трапяткую, поўную сапраўднага лірызму і драматычную па сутнасці мелодыю на словы верша Я. Коласа «Ты прыйдзі, вясна жаданая, прыйдзі...» Неўзабаве Анатоль Васільевіч пазнаёміў калектыў з амаль законча-

---

ШЧАСЛІВЫЯ, узбуджаныя, смеючыся і плачучы, беглі мы на гукі своеасаблівага святочнага салюта: старшыня сельсавета Валодзя Рыгаровіч страляў з нагана ў паветра, склікаючы мікалаеўцаў на сход, прысвечаны вялікай перамозе над фашысцкай Германіяй.

Сход адкрыў дырэктар школы Ігнась Міцкевіч. Відаць, ён хваляваўся моцна, шчаслівыя слёзы стаялі ў вачах. Хвіліну счакаў, пакуль усталюецца цішыня, і прамову ўрачыста пачаў словамі сябра свайго — Якуба Коласа:

## ПОМНІМ

**Мая Айчына маладая!**
**Савецкі край наш дарагі!**
**Хто дзён былых не прыгадае,**
**Калі навокал сіла злая**
**Крышыла нашы берагі...**
**І сёння мы стаім над светам,**
**Як непахісная скала,**
**І зззяюць людзям яснацветам**
**Імкненні нашы, нашы мэты**
**Пазбавіць свет ад гнёту зла.**

— Сёння мы святкуем вялікую перамогу, — працягваў Ігнась Юр'евіч. — Вораг знішчаны назаўсёды. Але зямля яшчэ стогне, і надоўга паранены чалавечыя сэрцы. Не вярнуліся з ратнага поля і многія нашы землякі. Аўдавелі жонкі, асірацелі бацькі. Толькі ў Сальвэся трое сыноў не вярнуліся з фронту...

Мінутай маўчання ўшанавалі памяць загінуўшых.

— Сябры мікалаеўцы! Пара пачынаць мірную працу. Закасаем рукавы, залечым раны зямлі.

**Няхай злуюцца цемрашалы,**
**Каму мяшок далараў — бог.**
**Іх лёс асуджаны, прапалы,**
**Ім не загнаць жыцця ў падвалы,**
**Ім не спыніць жыцця дарог...**

Вёска паступова ажывала. Па вечарах гучалі песні, іграў гармонік на Карчэвядзі, ля Нёмана рассыпаўся дзявочы смех. Здавалася, і салаўі пачалі шчоўкаць званчэй. А па суботах і нядзелях да гэтага «аркестра» далучаўся Сарока са сваім вялікім бубнам і Міша Рымашок з галасістым акардэонам. Вясёлае рэха гуляла ў наднёманскіх гаях.

Жыццё ўваходзіла ў звычайную каляіну. Мікалаеўцы ўвіхаліся на полі, гаспадыні наводзілі парадак у дварах, дзеці хадзілі ў школу, што размяшчалася па хатах.

ным клавірам оперы. Але і па ім можна было меркаваць, што нараджаецца арыгінальны, глыбока народны, ярка нацыянальны оперны твор. Кампазітар добра ведаў і разумеў беларускі нацыянальны мелас, але не пайшоў па шляху цытатнага выкарыстання ўзораў, а напісаў арыгінальную, блізкую па характары да народнай песні музыку.

**Калі опера была аркестравана, пачаліся рэпетыцыі. Наспеў час выходзіць на вялікую сцэну, і тут выявіліся нечаканыя пралікі. У маленькім памяшканні ўсё было добра, на вялікай жа сцэне «гучала» далёка не так, як было задумана. У чым справа? Думалі, меркавалі. Праслухаў рэпетыцыю вядомы дырыжор Мікалай Галаванаў і прапанаваў зрабіць новую аркестроўку. Праца велізарная! Малады кампазітар улічыў заўвагу вопытнага майстра, усё перарабіў нанова.**

**У 4-й карціне першай рэдакцыі оперы была вельмі эфектная і, як кажуць, «выйгрышная» сцэна — баль**

бе, што хутка скаванасць прайшла, і ўдзельнікі спектакля часта звярталіся да паэта за парадай.

Канстанцін Міхайлавіч падоўгу гутарыў з акцёрамі, расказваючы аб падзеях грамадзянскай вайны, уводзячы іх у атмасферу, у якой жылі і змагаліся героі яго твора. Асабліва многа ўвагі аддаваў артысту І. Мурамцаву — выканаўцу партыі Тараса (у аповесці—дзеда Талаша). Ён усяляк стараўся ўберагчы артыста ад хадульнасці, ад «опернага» штампа ў трактоўцы гэтага вобраза, расказаў пра жывога дзеда Талаша.

Аднойчы, калі ішла рэпетыцыя партызанскай сцэны, у цёмную глядзельную залу Канстанцін Міхайлавіч увайшоў не адзін. Побач з ім быў невысокі, ужо зусім сівы, але яшчэ моцны, каржакаваты стары. Пісьменнік клапатліва паса-



Дзед Талаш з Якубам Коласам.

# ...І НА ОПЕРНАЙ НІВЕ...

**у палацы багатага магната. Але яна не ўпісвалася ў агульны лад твора. Адмовіцца ад гэтай сцэны? Ад сцэны, у якую ўклалі так многа працы і кампазітар, і рэжысёр, і акцёры! Як заўсёды, у такіх выпадках, думкі разышліся: адны раілі «выкінуць баль», другія прапанавалі «яшчэ папрацаваць, падагнаць».**

**Гарачыя дэбаты працягваліся даволі доўга. Пакуль...**

Пакуль у нашу спрэчку не ўмяшаўся аўтар «Дрыгвы». Канстанцін Міхайлавіч, заўсёды стрыманы і сціплы, не любіў навязваць сваё меркаванне ў творчых пытаннях. А тут ён даволі рашуча прапанаваў адмовіцца ад гэтай сцэны, хоць сама па сабе яна «гучала» добра. Трэба сказаць, што опера ад гэтага толькі выйграла.

Якуб Колас прымаў самы жывы ўдзел у рабоце тэатра над операй «У пушчах Палесся».

Акцёраў часам бянтэжыла яго прысутнасць на рэпетыцыях, і гэта зусім натуральна, бо ішла «чарнавая» работа. Але Канстанцін Міхайлавіч так сціпла паводзіў ся-

дзіў свайго спадарожніка ў мяккае крэсла.

Загучаў партызанскі хор, заспяваў В. Лапін (выканаўца ролі Андрэя). Калі апошнія гукі партызанскай песні растапі дзесьці ў далёкіх кутках велізарнай залы, стары спахапіўся, падняўся на сцэну. Падбег да артыста і моцна паціснуў яму руку. Ён, відаць, быў вельмі ўсхваляваны, у яго не пастарэчы светлых вачах пабліскваді слязінкі. Хваляваўся і Лапін...

Колас пазнаёміў нас са сваім спадарожнікам. Гэта быў легендарны дзед Талаш!

Мастак С. Нікалаеў, які афармляў спектакль, прапаноўваў дзесяткі эскізаў, але адна сцэна не «давалася» яму—у партызанскім лесе. Паказалі малюнкі госцю. «А вось тут, на палянцы, у нас ляжаў вялізны дуб. Не памятаю, ці ссеклі яго, ці маланкай скасіла... Такі волат!» Сам таго не ведаючы, дзед Талаш падказаў мастаку правільнае афармленне сцэны.

**Праўда, спачатку стары не мог зразумець адной акалічнасці: аказваецца, сам ён у жыцці спяваў і не так часта, а тут яго будуць паказваць на сцэне, дзе кожнае слова спяваецца! Гутарку з ім адносна опернага жанру павёў рэжысёр спектакля І. Шляпянаў. Дзед Талаш ківаў галавой, хоць на вуснах і хаваў даволі хітраватую ўсмешку. Пасля адказваў на пытанні артыста І. Мурамцава, які іграў ролю Тараса, напісаную «з Талаша», спасылаўся на факты жыцця, а сам часам рабіў збянтэжаны выгляд: маўляў, як жа вы гэта ўсё праспяваеце?.. Затое слухаў многія арыі, асабліва «Люблю я прывольле...» (незабыўнае ўражанне пакідала яе выкананне А. Арсенкам і М. Дзянісавым), з прасветленым бляскам у вачах. Відаць, хваляваўся...**

Водгукі слухачоў і крытыкі пасля прэм'еры сведчылі, што спектакль «У пушчах Палесся» сродкамі опернага мастацтва праўдзіва і ярка адлюстроўвае старонкі нядаўняга мінулага, барацьбу народа супраць інтэрвентаў у гады грамадзянскай вайны. Цяжка сказаць, хто з выканаўцаў быў лепшы—цудоўна спявалі свае партыі С. Друкер (Аўгіння), В. Лапін (Андрэй), І. Мурамцаў (Тарас), Д. Аўдзеенка (Бусыга), П. Засецкі і І. Балоцін (Саўка Мільгун)...

Опера стваралася ў атмасферы творчага даверу: Якуба Коласа да кампазітара і тэатра, артыстаў — да рэжысуры. І надзвычай рэдкі факт—удзел у рабоце не толькі аўтара літаратурнай першакрыніцы, а і жывога ўдзельніка падзей, якія атрымлівалі мастацкае адлюстраванне ў нечаканай для гэтага ўдзельніка—і вельмі ўмоўнай!—опернай форме. Яны, Я. Колас і дзед Талаш, надалі радаснай падзеі—нараджэнню оперы—непаўторную прывабнасць. І ім таксама належалі тыя апладысменты, з якімі сустракаўся спектакль і ў Мінску, і ў Маскве ў часе Першай дэкады беларускага мастацтва і літаратуры. Адну з першых у краіне Дзяржаўную прэмію СССР у галіне опернага мастацтва атрымаў аўтар «У пушчах Палесся».

ЯКУБ КОЛАС садзейнічаў стварэнню адной з першых нацыянальных опер, якая разам з «Міхасём Падгорным» Я. Цікоцкага і «Кветкай шчасця» А. Туранкова паклала пачатак развіццю гэтага жанру на Беларусі.

**А. ГАНТМАН.**

# ТВОЙ КЛОПАТ, ДЗЯДЗЬКА КАСТУСЬ!

«Як толькі прыеду на Беларусь, займуся мікалаеўскімі справамі. Школу трэба паставіць, зрабіць на зайздрасць людзям, а таксама пабудаваць не медпункт, а бальніцу», — так пісаў у тыя дні мікалаеўцам іх славуты зямляк Якуб Колас.

Дзядзька Якуб, вельмі заняты літаратурнымі і дзяржаўнымі справамі, заўсёды знаходзіў час, каб пацікавіцца справамі землякоў, паклапаціцца аб іх патрэбах.

Пісьмы яго былі радаснай падзеяй у Мікалаеўшчыне, іх абмяркоўвалі ўсёй вёскай. з нецярплівасцю чакалі сустрэчы. Ды раптам прыляцела нядобрая вестка: памерла жонка паэта. Сумныя ў тыя дні хадзілі мікалаеўцы, жанчыны плакалі, шкадавалі цётку Марусю, што так рана памерла, калі гора вайны пачало забывацца, калі б жыць ды жыць, цешыцца дарослымі сынамі...

Але і ў гэты цяжкі час не забыўся Колас на клопаты вёскі. Дырэктар школы зачытаў землякам яго ліст:

«Паведамляю аб маім вялікім горы: у ноч з 20 на 21 мая памёр мой самы блізкі, самы дарагі друг, Маруся. Памерла ў Маскве, у бальніцы, 24 мая пахавалі ў Мінску на Ваенных могілках. Адчуваю сябе так, як бы мне адсеклі правую руку і адабралі палавіну душы...

Школьную справу буду падганяць. Гаварыў ужо аб ёй. Спадзяюся, што сёе-тое зроблена».

На другое лета Якуб Колас прыехаў у Мікалаеўшчыну. Зайшоў у Зімкаву хату, сястру Юзю адведаць. Яе дзеці якраз вярталіся з рыбнай лоўлі і, радасна ўбегшы на падворак, каб паказаць «трафеі», раптам спыніліся, убачыўшы на лаўцы ля бярэзіны чалавека з сівымі прыгожымі вусамі, хударлявым тварам, разумным, прыветным і хітраватым позіркам. Дзядзька Кастусь! А поруч з ім—дырэктар школы, і таксама радасна ўсміхаецца.

— Ну, рыбаловы, добры дзень, відаць, вам сёння пашанцавала,— Якуб Колас кінуў позірк на рыбу. —Хто тут з вас самы спрытны? З сеткаю лавілі?

— Не, мы рукамі, — адказаў Міхаська, — у пячорах ці пад купінамі. А Лявон спрытны на гэту справу, вунь, якіх плотак нахапаў. Ды і мы не лыкам шыты, — брат паказаў на тоўстых мянтузаў і паласатых акунёў.

— А выдра вас часам за нагу не ўкусіла? — пацікавіўся Ігнась Юр'евіч.

— Дык Яўхім ужо з ёю пазнаёміўся, выдра яму чуць нос не адгрызла, — адказаў дзядзька Кастусь. — Задоўгі нос маеш, пляменнічак, калі соваеш яго замест рукі ў пячору...

— Дзядзька Кастусь, да вас, выпадкова, не прыязджаў Гарышчэня, ваш вучань-паляшук? У сорак чацвёртым годзе я бачыў яго ў Арцюхах, калі нашы гналі немцаў.

— Не брат, не здаралася такога, на вялікі жаль.

— Ён прасіў перадаць вам вось такое вялікае прывітанне. Таварыш Гарышчэня падарыў мне ножык, — Яўхім дастаў з кішэні падарунак і паклаў на стол.

Канстанцін Міхайлавіч уважліва разглядаў армейскі нож, цёпла ўсміхаўся. Папрасіў больш падрабязна расказаць пра сустрэчу, а калі Яўхім прачытаў верш, які склаў дзядзька пра свайго вучня ў час настаўніцкай працы на Палессі, Якуб Колас шчыра рассмяяўся.

**Мой вучань-паляшук**
**Мікола Гарышчэня**
**Пашыў сабе капшук,**
**Калі кідаў курэнне.**

Потым пайшла гаворка пра жыццё, Ігнась Юр'евіч расказваў пра гаспадарчыя справы вёскі, пра дабрабыт мікалаеўцаў. Школа ўжо была пабудавана, завяршаліся аддзелачныя работы.

— Тваё, Ігнась, патрабаванне на лаўкі і электраабсталяванне я перадаў у Міністэрства асветы, — сказаў Колас. — Думаю, што скора атрымаеш. Рады, што працуе бальніца, добрая справа зроблена.

— Я табе, магчыма, моцна надакучаю сваімі пісьмамі, клопатамі аб вёсцы, але ты, брат, не гневайся...

— Што ты, я вельмі рады дапамагчы свайму роднаму куту. Мікалаеўцы многа пішуць мне як дэпутату. Шкада толькі, што здароўе пахіснулася, часта хварэю, — паскардзіўся дзядзька Кастусь.

— Здароўе сваё, брат, шануй, яно не толькі табе самому патрэбна. Людзям яно дарагое. Забыўся сказаць табе: прыязджалі геолагі з Мінска, даследавалі гліну для цагельні, аглядалі пяскі, цікавіліся балотамі

— Ну, і які вынік? — пацікавіўся Якуб Колас. — Знайшлі што-небудзь?

— Гліны тут багата, казалі, на многія гады хопіць. І пясок быццам неблагі, можна шклозавод будаваць.

— Пры выпадку паталкую з геолагамі на гэту тэму, а балоты асушыць трэба, больш ворнай зямлі было б. Ты, Ігнась, збяры сход, падумаем усе разам. Меліяратары, безумоўна, дапамогуць, але людзі павінны самі быць зацікаўлены, каб дружнай працай адваяваць зямлю ў балота.

— Хопіць вам гаварыць, напэўна, прагаладаліся, пара садзіцца за стол, — звярнулася да гасцей Юзя. — Я вам нёманскай рыбы насмажыла.

— Дарэмна ты, Юзя, так моцна турбуешся. Не бог ведае, якія мы тут міністры, — з жартлаўлівым дакорам прагаварыў дзядзька, але рыбу нёманскую еў з асалодай, хваліў.

Пачалі развітвацца.

— Прабач, Юзя, хачу наведаць дзядзьку Антося, да Міхаліны, Юзіка заглянуць патрэбна. Мані, твае хлопцы кажуць, няма дома. Дык перадай ёй прывітанне. Калі для дзяцей што трэба, скажы толькі, рад буду дапамагчы. Беражы здароўе, не зусім важна выглядаеш.

Юзя на развітанне паплакала, таксама прасіла брата, каб шанаваў здароўе, перадала паклон пляменнікам: Данілу, Міхасю.

Неўзабаве камсамольцы Мікалаеўшчыны атрымалі ад земляка-пісьменніка ў падарунак кнігі з надпісам: «Слаўным мікалаеўскім камсамольцам на добрую памяць ад Якуба Коласа».

Сымон Стома, былы франтавік, загадчык хаты-чытальні, вырашыў з такой нагоды сабраць сход. Вечарам у доме дзяка на Грудку, дзе часова памяшчалася чытальня, сабралася моладзь. Сымон азнаёміў усіх прысутных з пісьмом, у якім Канстанцін Міхайлавіч хваліў мікалаеўскіх камсамольцаў за тое, што яны былі ініцыятарамі работ па асушэнні балот, узялі шэфства над школай. На сходзе было вырашана прывесці ў парадак школьную тэрыторыю, абсталяваць спартыўную пляцоўку, усім адпрацаваць па дзесяць дзён у школе на аддзелачных работах, каб навучальны год дзеці пачалі ў новым памяшканні.

— Будзем галасаваць, сябры, ці яшчэ будуць прапановы? — запытаўся Сымон.

— Ёсць! — адгукнуўся з парога Міша Шалэйка, кірпаносы, шыракаплечы, самы вынаходлівы і вясёлы ў вёсцы хлопец.

— Я прапаную кожнаму камсамольцу навучыць грамаце двух—трох непісьменных бацькоў, каб не лыпалі вачыма, калі ім здараецца быць у горадзе, каб маглі прачытаць розныя шыльды, распісацца па-чалавечаму і нават пісьмо напісаць.

Усе дружна падтрымалі і гэтую прапанову.

Словы не разышліся са справай: ужо назаўтра ўсе працавалі ў школе: дзяўчаты мылі вокны і падлогу, ля іх з пэндзлямі ў руках завіхаліся хлопцы-маляры. Ігнась Юр'евіч Міцкевіч быў вельмі задаволены, хадзіў па двары, усміхаўся ў белую бараду, абяцаў расказаць Коласу, якое ўражанне зрабіў на маладых мікалаеўцаў яго падарунак.

**Сымон БЕЛЫ.**

СЯРОД КНІГ СЯРОД КНІГ

# ГАРТАЮЧЫ КІНАКАТАЛОГ...

Беларускае кінамастацтва за сваю амаль паўвекавую гісторыю накапіла немалы багаж. Больш 60 назваў мастацкіх і многія дзесяткі дакументальных кінастужак выпушчаны беларускай кінастудыяй у даваенныя гады. Каля 80 назваў — у спісе пасляваенных ігравых карцін вытворчасці «Беларусьфільм». А колькасць выпушчаных за гэты час кіначасопісаў, дакументальных, навукова-папулярных і вучэбных фільмаў, бадай, дасягае паўтысячы. Сістэматызаваць усё зробленае, занатаваць і апісаць — справа нялёгкая, але вельмі важная, патрэбная. І вось з радасцю трымаю ў руках сярэдніх памераў, у сціплай жоўтай вокладцы кнігу «Беларускія фільмы (анатаваны каталог)». Выдалі яе ў гэтым годзе Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў БССР па кінематаграфіі і Беларускі рэспубліканскі савет прафесійных саюзаў.

З анатацыі да кнігі пазнаеш, што «ў гэты каталог уключаны беларускія мастацкія (поўнаметражныя і кароткаметражныя), а таксама хранікальна-дакументальныя, навукова-папулярныя і вучэбныя фільмы па стану на 10.XII. 1971 г.». Дакладней кажучы, амаль усё, што выпушчана ў рэспубліцы за 26 пасляваенных гадоў (даваенны кінафонд захаваўся толькі ў Галоўным дзяржаўным сховішчы ў Маскве). Нават зайздросціш энергіі А. Мацкевіча, складальніка названага каталога: пакуль у сектары тэатра і кіно Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР і ў Саюзе кінематаграфістаў рэспублікі плануюць, адзін супрацоўнік сістэматызаваў каля 400 фільмаў!

Але радасць гасне па меры таго, як паглыбляешся ў змест выдання.

Звычайна ў каталогах фільмы класіфікуюцца па гадах і значацца пад нумарам, а ў канцы ёсць «зводны» алфавітны даведнік. Дзякуючы гэтаму можна лёгка адшукаць патрэбны кінатвор, удакладніць звестку аб ім. У каталогу «Беларускія фільмы» назвы карцін проста размешчаны ў алфавітным парадку. Не знойдзеш у ім спасылак на крытычныя матэрыялы, з якіх можна даведацца аб ацэнцы фільмаў друкам. Не ўказаны галоўныя героі твораў і іх выканаўцы, толькі пералічваюцца прозвішчы некаторых акцёраў. Гэта адразу, як кажуць, кідаецца ў вочы.

Навуковая і эстэтычная каштоўнасць анатаваных бібліяграфічных даведнікаў і каталогаў вымяраецца больш за ўсё дакладнасцю характарыстык, адпаведнасцю іх сутнасці кожнага ўключанага ў кнігу твора. Складальнік даведніка «Беларускія фільмы», на жаль, мала звяртаў увагі на гэтыя патрабаванні і клапаціўся толькі аб фактычных звестках (часе выпуску і аўтарах) фільмаў.

На асобныя фільмы дадзены больш-менш дакладныя анатацыі. Увогуле ж кінакарціны ахарактарызаваны вельмі прыблізна, а іншы раз і зусім не дакладна. Вядома, напрыклад, што драматург К. Губарэвіч і рэжысёр Л. Голуб у фільме «Анюціна дарога» расказалі аб маленькай дзяўчынцы, дачцы бальшавіка, якая ў гады грамадзянскай вайны па дарозе з Масквы ў вёсцы згубіла маці, а потым аказалася сведкай і нават удзельніцай класавай барацьбы. І пра гэта фільм. На жаль, ідэйны змест стужкі выпаў з-пад увагі А. Мацкевіча. Пра героя кінааповесці «Дзесятая частка шляху» інжынера Караткова сказана, што ён, атрымаўшы пасаду галоўнага канструктара завода, «адчуваў сябе не на месцы» і «амаль адразу расчараваўся ў справе, якую яму даручылі». У фільме якраз усё наадварот: новы галоўны канструктар расчараваў некаторых тым, што забракаваў гатовы да серыйнага выпуску станок, што ён з нямногімі аднадумцамі пачаў удасканальваць яго. Я зусім не бяру пад абарону гэты схематычны па канфліктах і вобразах твор; гаворка ідзе аб неабходнасці дакладна вызначаць тое галоўнае, што складае змест фільма. Не ўлічвае аўтар каталогу і жанравыя асаблівасці фільмаў. Пра «Паўлінку» ён піша, што гэта: «Кранальны расказ пра каханне беларускай сялянкі Паўлінкі і сельскага настаўніка Якіма»... Чытач можа сам ацаніць банальнасць і павярхоўнасць такой ацэнкі.

Не доўга думаў А. Мацкевіч і над тым, як сказаць пра кожны фільм тое галоўнае, што ўласціва толькі яму. Адсюль — агульныя фразы, якія могуць быць аднесены да любога фільма пэўнай тэматыкі. Вось два прыклады: «Пісьмы да жывых» — «У ім расказваецца аб мужнай барацьбе працоўных заходніх абласцей Беларусі»... «Праз могілкі» — «Фільм — расказвае аб эпізодах суровай партызанскай барацьбы»... На самой жа справе першы фільм — пра камуністку, якая прайшла складаны шлях барацьбы ад вязня польскай турмы да Героя Савецкага Саюза; у другім — амаль няма «эпізодаў суровай партызанскай барацьбы», а паказана, як сталеў і мужнеў падлетак Міхась, як людзі дапамаглі яму выканаць партызанскае заданне...

А варта скласці на навуковай аснове, літаратурна дасканалы анатаваны каталог усіх кінафільмаў, выпушчаных беларускай кінастудыяй за паўстагоддзе. У аналізуемы даведнік уключаны толькі пасляваенныя фільмы. Ды і то чамусьці не ўсе. Не знаходзіш, напрыклад, такіх твораў, як «Нашы суседзі», «Шчасце трэба берагчы», «Несцерка», «Хто смяецца апошні», «Зялёныя агні», «Пасеялі дзяўчаты лён». Апошнія два, можа не ўключаны з прычыны невысокіх ідэйна-мастацкіх вартасцей? Але ж у каталогу ёсць нелепшыя — «Вясновыя навальніцы», напрыклад, «Каханнем трэба даражыць» і іншыя. Відаць, асобных беларускіх кінастужак (у тым ліку і тых, што паўторна выпушчаны на экраны) зусім няма ў нашым кінапракаце. Але чаму? Хто вырашае: жыць ці не жыць фільму?

Чаму я пішу з такой трывогай пра недахопы патрэбнага і карыснага выдання? Па-першае, каб звярнуць увагу на агульны стан анатавання і рэкламы фільмаў, бо ні для кога не сакрэт, што газета «Кинонеделя Минска» і інфармацыйны бюлетэнь «На экранах Беларусі» часцей за ўсё абмяжоўваюцца чыста папулярызатарскімі мэтамі. На іх старонках даюцца вельмі высокія ацэнкі нават зусім пасрэдным стужкам, пра артыстаў і рэжысёраў пішацца так, нібы аўтары нататак прызвычаіліся выступаць з юбілейнымі панегірыкамі. Па-другое, кінематаграфісты на сваіх сходах ставяць пытанне пра неабходнасць мець спецыяльнае перыядычнае выданне з арыентацыяй на часопіс. Таму кожнае выступленне папулярызатараў кінамастацтва павінна пацвярджаць права на такі часопіс. «Кинонеделя Минска» і «На экранах Беларусі» пакуль што такой «заяўкі» не зрабілі... Каталог, аб якім тут гаворыцца, таксама не пазбаўлены пралікаў і агрэхаў. Розныя факты, але сведчаць яны аб адным — Саюз кінематаграфістаў БССР і яго творчыя секцыі пакуль што недастаткова памагаюць станаўленню і развіццю ўсіх жанраў крытыкі.

Мабыць, варта наладзіць шырокае абмеркаванне ўсяго, што на гэты час выдадзена па пытаннях кіно ў рэспубліцы, прааналізаваць кнігі, брашуры, перыядычныя бюлетэні і рэкламныя газеты. Што б мы ні пісалі пра мастацтва кіно, — анатацыю ці рэцэнзію, творчы партрэт артыста ці навуковае даследаванне — усё адрасуецца шматтысячнаму чытачу. Таму нельга тут дараваць і самых дробных няўдач.

Такія думкі з'явіліся ў мяне, калі я чытала і перачытвала складзены энтузіястам А. Мацкевічам анатаваны каталог «Беларускія фільмы».

**Е. БОНДАРАВА.**

# ПРЫЕМНАЕ З КАРЫСНЫМ

Заўжды радуюць паэтычныя зборнікі для дзяцей, у якіх вершы аб'яднаны нейкай адной тэмай ці нават адным героем. Іх можна параўнаць з урокам, на якім таленавіты настаўнік заўсёды ўмее новую тэму зрабіць працягам папярэдняй. У гэтым сэнсе малыя з вялікай цікавасцю пазнаёмяцца са зборнікамі «Каля млына» А. Лойкі і «Аркестр» В. Лукшы, аб якіх і пойдзе гутарка ніжэй.

А. Лойка, знаёмячы маленькіх чытачоў з норавамі і звычкамі хатніх жывёл, вучыць іх любві да ўсяго жывога, да прыроды наогул. Робіць гэта аўтар вельмі лірычна, даходліва, праз даступныя дзецям асацыяцыі і параўнанні. Не сустрэнеш у яго вершах надакучлівай дыдактыкі, многа ў іх гумару, які так любяць і так добра ўспрымаюць дзеці. Наўрад ці забудзе малое такіх сімпатычных куранят, якімі апісаў іх А. Лойка:

**На надворку**
**Матчыным**
**Цвіркочуць**
**Адуванчыкі!..**
**Мяккія,**
**Бялявыя,**
**Жвавыя,**
**Рухавыя.**

У вершах А. Лойкі шмат вясёлай выдумкі. Што можа сніць курачка рабенька? Можа зорку, можа знічку, а хутчэй за ўсё дробную пшанічку. Чаму не могуць устаяць на месцы маленькія жарабяткі? Бо ў іх чатыры ножкі, а вакол «зялёны луг і трава, нібыта пух».

Рытміка вершаў напеўная, блізкая па малюнку да інтанацый народных песень:

**«Залатой саломай**
**Мошчаны пасад, —**
**Можна і ў садочак,**
**Можна і назад!..»**

**Сцелецца абрусам**
**Дальняя дарога...**
**Запрагаюць дзеці**
**Коніка сівога!..**

Даводзіцца толькі пашкадаваць, што ў гэтай чароўнай у цэлым кніжцы сустракаюцца недакладныя азначэнні, даўно знаёмыя параўнанні (атавы — з падушкай, рогі каровы — з вянком і г. д.) Думаецца, няпроста будзе, скажам, першакласніку самому разабрацца ў такіх радках:

**Траўку дзень яна (каровка — Р. Л.)**
**Скубе,**
**Пысай мяккаю**
**Сапе,**

**Сакаўны**
**Жуе мурог,**
**У вяночку**
**Тонкіх рог**
**Носіць**
**Сонца цёплы круг,**
**Каб скаціць пасля**
**За луг...**

Канечне, дарослы чытальнік выправіць справу інтанацыяй. Але калі верш будзе чытаць дзіця, у яго хутчэй за ўсё атрымаецца, што вяночак з тонкіх рог належыць сакаўному мурагу.

У зборніку «Аркестр» Валянцін Лукша паставіў сваёй мэтай пазнаёміць дзяцей з рознымі музычнымі інструментамі. Вершы звязаны паміж сабой не толькі тэмай, але і сюжэтам: спазніўся камертон, што «задае аркестру тон», і інструменты пачалі выхваляцца адзін перад адным, хто важнейшы і хто можа замяніць камертон.

Хораша гучаць вершы пра фагот, гітару, званочкі, габой, літаўры, чэлесту, жалейку, гуслі, валторну. Паэт знайшоў дакладныя словы, каб намаляваць знешні выгляд згаданых інструментаў і расказаць пра іх прызначэнне, асаблівасці іхняга «голасу». Вось, напрыклад, што гаворыць пра сябе дуда:

**— Гэта што**
**За бяда? —**
**Прадудзела**
**Дуда. —**
**Каб развесці**
**Бяду —**
**Папрасіце**
**Дуду....**
**Як зайграе**
**Дудар —**
**Замірае**
**Абшар.**

Удала падабраныя алітэрацыі, выразны рытміка-інтанацыйны малюнак!

Але ёсць у зборніку і такія вершы, дзе аўтар абмяжоўваецца самымі агульнымі словамі, не даючы практычна інструментам (а яны і ёсць героі яго кнігі) ніякай характарыстыкі. Нічога каштоўнага не дадуць дзецям маналогі балалайкі, бубна, гармоніка, саксафона, талеркі, скрыпкі. Наўрад ці хто зразумее, ролю трохвугольніка ў аркестры, пазнаёміўшыся з такім вось вершам:

**— Добра знае**
**Кожны школьнік,**
**Што такое,**
**Трохвугольнік.**
**Ды, відаць,**
**Не кожны знае**
**Трохвугольнік той,**
**Што грае.**

Верш літаральна ні пра што!

Пра піяніна мы даведваемся толькі, што яно карыстаецца даверам (у каго?), што яго кожны паважае, што яму не знайсці пары па памеры і што ніхто больш не мае так многа струн...

Кніга В. Лукшы магла б «прагучаць» ярчэй: паэт ён здольны.

**Радзівальт ЛІТВІНАЎ.**

Алег Лойка. «Каля млына». Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1972. Валянцін Лукша. «Аркестр». Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1972.

# АД ВЫТОКАЎ

З ЧАГО ПАЧЫНАЕЦЦА Радзіма? Напэўна, для кожнага — са сваіх асабістых непаўторных успамінаў дзяцінства. Таму не дзіўна, што для большасці беларускіх паэтаў, сялянскіх дзяцей, яна пачынаецца з вёскі. Зноў і зноў вяртаюцца яны ў сваёй творчасці да дарагіх сэрцу мясцін, дзе ўпершыню адчулі прыгажосць роднай зямлі, упершыню пачулі матчына слова.

**Да вытокаў вяртаемся мы, да вытокаў,**
**Да зялёнай зямлі і да зоркі высокай,**
**Да дрыготкай вады, што звініць пад вятрамі,**
**Да густой цішыні над начнымі палямі,**
**У спакоі дубоў, у журботе асіны,**
**У палёце зязюлі, у следзе ласіным,**
**У задумлівым шэпце бярозы-красуні**
**Ёсць з душой чалавечай таемная сувязь.**

Гэтыя радкі — з новай паэтычнай кнігі Леаніда Дайнекі «Бераг чакання». І хоць часам інтанацыя яго можа здацца занадта стрыманай і спакойнай, у лепшых вершах падкупляе натуральнасць і непрыдуманасць пачуцця, свежасць думак і вобразаў.

**Я знайшоў птушынае гняздо —**
**Кволых жыццяў кволае цяпельца.**
**Як аднойчы згубленую песню,**
**Я знайшоў птушынае гняздо...**

Зборнік Леаніда Дайнекі разнастайны па тэматыцы. І ўсё ж асоба лірычнага героя раскрываецца найбольш ярка і выразна менавіта ў вершах, прысвечаных вёсцы. Малады паэт з любасцю выпісвае і сівога дзядка, да якога сёння «пад бляск расы, іржанне коней прыходзяць з далечы зялёнай яго юнацкія гады», і вясковую дзяўчыну, што мые твар бялюткім малаком», і сенажаць, па якой ён нетаропка, з абноўленай душой вяртаецца з горада да роднай хаты.

Аднак не толькі лес ды выган для яго адзіная крыніца натхнення. Пры ўсёй сваёй любві да вёскі, да яе працавітых людзей (і ў гэтай любві ёсць нешта вельмі шчырае і прывабнае) паэт зусім не імкнецца «развенчваць» горад. Гаворачы пра вёску, ён падкрэслівае, што

**...адсюль пайшлі па свеце**
**Ручайкі адной ракі:**
**Падарожнікі, паэты,**
**Гарадоў будаўнікі.**

Паэт не замыкаецца ў вузкім коле «вясковых» перажыванняў. Яму зразумела прыгажосць таго сонца, што палае ў мартэнаўскіх печах. Ён услаўляе подзвіг парыжскіх камунараў і раздумвае пра лёс нашых дзяцей — будучых уладальнікаў касмічных трас. Ёсць у Дайнекі вершы пра каханне. Іх нямнога, і амаль усе яны кранаюць чысцінёй і ўзнёсласцю пачуцця. Пра першую сустрэчу з любай паэт піша:

**Так знаходзяць у цемным лесе**
**Паляну, поўную кветак...**
**Так знаходзяць у лузе крыніцу,**
**Нечакана, раптоўна, удзячна...**

Усё, што было сказана вышэй, датычыць лепшых вершаў зборніка, такіх, як «Вуголле спаленых хацін», «Партызанская каша», «Ёсць бераг чакання», «Крывая не заменіцца прамой» і інш. Але, на жаль, ёсць у кнізе вершы мала выразныя па думцы, а то і проста недапрацаваныя, неадшліфаваныя . Чым інакш можна вытлумачыць наяўнасць такіх рыфмаў, як «у — лесе» — «на ўзлессі», «жыве» — «табе», «цвіло» — «сваё» і г. д. Хочацца перасцерагчы Л. Дайнеку і ад паэтычных штампаў, якія сустракаюцца ў зборніку недаравальна часта: «О горды Парыж паўстанняў», «О кветка ўдачы, кветка горкая», «О веку тэмпы і рытмы», «О бессмяротнасць салаўёў», «О турбота соснаў маладых», «О хвіліны маўчання! О лясоў галасы!», «О ззянне залатое! О ціхі звон у сэрцы!» Наўрад ці можна пагадзіцца з правамернасцю вобраза «ляцяць балконы светлыя... нібы птушкі». Не пасягаючы на права паэта на філасофскія асацыяцыі пры апісанні з'яў прыроды, усё ж хацелася б пажадаць яму быць больш дакладным у гэтых апісаннях. Ніколі не згодзіцца чытач, з тым, што метэарыты падаюць на зямлю, таму што «ў небе ім цесна», і не паверыць, што яны могуць сумаваць па «сінім небе».

Так, узровень вершаў зборніка няроўны. Над некаторымі паэту варта было б яшчэ папрацаваць. Але ўвогуле знаёмства з кнігай пакідае ўдзячны, прыемны след у душы. «Бераг чакання» відавочна сведчыць, што Л. Дайнека зрабіў яшчэ адзін крок да ўзмужнення, да паэтычнай і грамадзянскай сталасці.

**Мікола ФЕДЗЮКОВІЧ.**

Леанід Дайнека. «Бераг чакання». Вершы. Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1972.

# АД МУДРАСЦІ НАРОДА

*НОВАЯ ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ СТУЖКА МІНСКАЙ СТУДЫІ ТЭЛЕБАЧАННЯ «АД РОДНЫХ НІЎ...»*

**НАРАДЗІЎСЯ новы чалавек — значыць, быць вялікаму святу. Яно выходзіць за парог, крочыць па вясновай вуліцы, стукае ў дзверы. Свята ў адной хаце—свята ў цэлым краі. Завіхаецца каля печы гаспадыня, з пылу-жару здымае румяных пеўнікаў, майстры-ўмельцы—ганчары, сталяры, ткачыхі—бяруцца за свае прылады і інструменты. Ячы прынясуць свае дзівосныя падарункі немаўляці, жадаючы яму здароўя і шчасця, багацця і ўдачы.**

**Так пачынаецца новы тэлевізійны фільм «Ад родных ніў...» Мінскай студыі тэлебачання, створаны рэжысёрам Валерыем Басавым па сцэнарыі Віктара Карамазава (аператар Аркадзь Міцюля, мастак Барыс Рэпін, рэдактар Міхаіл Клебановіч).**

— У стужцы мы імкнуліся расказаць аб народнай творчасці, аб мастацтве, якое бярэ сваю прыгажосць ад родных ніў, ад мудрасці народа і яго беспамылковага тонкага густу, аб звычаях і абрадах, што прыйшлі да нас з глыбіні стагоддзяў, — гаворыць В. Басаў.—У цэнтры абрады і цырымоніі, звязаныя з нараджэннем новага чалавека.

Здаецца, усе самыя яркія фарбы, што стварыла чараўніца-прырода, расквецілі сялянскую хату. Камера спыняецца на ажурных фіранках, тканых посцілках і дыванах, на казачна прыгожых ручніках, што вісяць у чырвоным куце, на рамках са шматлікімі сямейнымі фатаграфіямі, затрымліваецца на сучасным і ўсё ж вельмі традыцыйным убранні беларускай хаты.

Дзверы не зачыняюцца, ідуць і ідуць госці. Жанчыны ў тканых чырвона-белых хустках, завязаных клабуком, у шарсцяных клятчатых панёвах, паверх чырвоных, зялёных, фіялетавых спадніц, у расшытых кашулях. Кожны ўзор на іх мае сваю назву — «цыганы», «зубатыя цыганы», «храсты», «бярвенне». Зараз цяжка сказаць, адкуль яны прыйшлі ў неглюбскі нацыянальны касцюм. Але, напэўна, у гэтых назвах нейкая старонка гісторыі вёскі, часцінка жыцця яе былых жыхароў. А дзе яшчэ, акрамя Неглюбкі, сустрэнеш такі пояс з «кікіцамі» (прыводзяцца назвы так, як яны жывуць у мове неглюбскіх жыхароў).

Не менш прыгожыя касцюмы і іншых раёнаў Беларусі. У іх апрануты артысты з самадзейнага этнаграфічнага ансамбля «Лявоніха», што прыехалі з Трасцянкі. Яркія, чырвоныя андаракі, расквечаныя рознакаляровымі палоскамі, белыя з нацыянальнай вышыўкай фартухі і кофты. Галаўны ўбор — хустка-намётка з доўгімі канцамі, вышытая над ілбом і на канцах.

Госці сабраліся на радзіны. Кожны з іх прынёс з сабой не чатыры міскі з чатырма рознымі стравамі, як было заведзена калісьці, а багатыя падарункі.

За сталом у чырвоным куце—кум, кума і баба. За бабай—галоўнае слова. Яна карыстаецца асаблівай павагай на вёсцы, мусіць, яшчэ з тых даўніх часоў, калі яна была асноўнай памочніцай і дарадчыцай маладой маці. У ролі бабы — неглюбская ткачыха Ефрасіння Суглоб. Здаецца, немагчыма было падабраць артыстку, больш адпаведную такой ролі.

Высокая, мажная, румяная, а вочы так і блішчаць, так і іскрацца весялосцю. А вось традыцыйная «бабіна каша» ў гліняным гаршку, прыхаваная пад ручніком. Баба хваліць сваю кашу, жадаючы зрабіць гасцей больш шчодрымі і падатлівымі. А тыя спрачаюцца з ёю. Нарэшце, жадаючы пакласці канец таргам і запрашаючы гасцей паказаць падарункі, баба нараспеў гаворыць:

Паспрабуйце, госцейкі, бабіну
кашу.

А дзе ж падаруначкі вашы?..

Гучаць тосты за здароўе нованароджанага. Кум разбівае гаршчок з «бабінай кашай», і пачынаецца парад падарункаў і сувеніраў. Кружацца пад музыку драўляныя зубры і гліняныя Лявонікі, скачуць саламяныя конікі, зіхацяць у яркім святле керамічныя гладышы і міскі, інкруставаныя куфэркі, самых розных колераў і адценняў посцілкі, сурвэткі, дываны, ручнікі...

**У фільме мы бачым не толькі творы народнага прыкладнога мастацтва, але і тых, хто іх стварае.**

**Міхаіл Пушкар вядомы як стваральнік дробных керамічных фігурак. Гэта персанажы, узятыя з фальклору або проста з жыцця, зробленыя з добрым гумарам і вялікай любоўю.**

**У фільме знята за работай Таісія Агафоненка — дачка вядомай брэсцкай майстрыхі Веры Гаўрылюк, якая аднавіла старажытны беларускі промысел—пляценне з залацістай саломкі.**

**Станіслаў Адамовіч прывёз вырабы івянецкай керамікі.**

**Мне здаецца цікавым і яшчэ адзін удзельнік гэтага фільма — неглюбскі сталяр Пётр Прыходзька. Ён робіць гармонікі. Выдатныя інструменты, якія цэняцца за цудоўны чысты гук і прыгожае знешняе афармленне, просяць прысылаць у Хабараўск і Якуцію, Тулу і Кіеў. «Калі гармонік трапіць у добрыя рукі і будзе беражліва захоўвацца, то можа праслужыць і 25 год, і болей», — так расказвае пра свае інструменты Пётр Прыходзька...**

**Праўда, хочацца зрабіць і заўвагу на адрас аўтараў стужкі. Натуральная плынь сюжэта раптоўна парушаецца, і ў кадрах мільгаюць розныя вырабы па матывах народных узораў, быццам пачынаецца зусім іншы фільм—рэкламны, зроблены па заказу гандлёвых арганізацый. І выглядае такі «ўхіл» ад прадмета кінематаграфічнага асэнсавання штучным, чужым у строга прадуманым ладзе папярэдніх кадраў і эпізодаў.**

Беларускія народныя мелодыі гучаць у фільме ў выкананні Пастаўскага самадзейнага аркестра народных інструментаў, старадаўнія беларускія народныя і абрадавыя песні спяваюць артысткі этнаграфічнага ансамбля «Лявоніха». Сяляне іграюць самі сябе, сцэны са свайго ўласнага жыцця, дэманструюць вырабы свайго самабытнага, тонкага мастацтва. Каб даць гледачам больш поўнае ўяўленне аб беларускіх майстрах-умельцах і іх рабоце, аўтары фільма паказваюць не толькі гатовыя сувеніры, але і працэс творчасці.

**Работа над фільмамі завершана. На тым тыдні адбылася яго прэм'ера па тэлебачанні. Хутка ён выйдзе на экраны кінатэатраў. Яркая, імклівая, насычаная багатым этнаграфічным матэрыялам стужка, несумненна, прынясе вялікае задавальненне. І вельмі было б добра, каб гэты этнаграфічны фільм быў добрым пачаткам серыі стужак такога плана.**

Ужо выйшлі з друку чатыры кнігі з 30-томнага збору беларускага фальклору (дарэчы, дзве з іх—«Радзінная паэзія» і «Дзіцячы фальклор»). Зусім нядаўна вярнулася чарговая экспедыцыя фалькларыстаў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР, якая вывучала заходнія раёны Віцебскай вобласці. Як вынік—больш дзвюх тысяч тэкстаў песень, прыпевак, каля сямі тысяч метраў магнітафоннай стужкі з запісам народнага меласу. Тэмай новага фільма магла б стаць і кераміка Міхаіла Пушкара, і Трасцянскі песенны ансамбль «Лявоніха» і сяло Неглюбка — невычарпальная крыніца для тых, хто вывучае народнае прыкладное мастацтва, побыт, касцюмы, песні беларусаў.

**НАРОДНАЕ мастацтва адраджаецца інтэнсіўна і хутка. Тое, што адбываецца ў развіцці народных промыслаў сёння, можна назваць выбухам. Яно займае самастойнае месца нароўні з творамі прафесійных мастакоў. Хочацца, каб у наступных фільмах гэта новая плынь знайшла шырокае адлюстраванне.**

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

*ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!*

# Уладзіміру ШЫЦІКУ — 50



*31 жніўня споўнілася 50 год празаіку Уладзіміру Шыціку. З гэтага выпадку праўленне Саюза пісьменнікаў звярнулася да юбіляра з прывітаннем, у якім гаворыцца:*

**«Дарагі Уладзімір Мікалаевіч! Шчыра, сардэчна віншуем Вас з нагоды Вашага 50-годдзя.**

**Сваё першае апавяданне Вы надрукавалі ў 1952 годзе. Потым выйшлі асобнымі выданнямі некалькі аповесцей — «Сосны адшумелі сваё», «Майская раніца». Яны прысвечаны сучаснасці, вырашаюць пытанні жыцця і побыту рабочай моладзі.**

**У апошнія гады Вы пачалі актыўна працаваць у навукова-фантастычным жанры літаратуры. Створаны кнігі: «Апошняя арбіта», «Зорны камень», «Парсекі за кармой». Іх прыхільна сустрэлі юныя чытачы.**

**Шмат сіл і ўвагі Вы аддаяце журналістыцы, рабоце ў рэдакцыі «Сельскай газеты», з якой непарыўна звязаны некалькі гадоў.**

**Ад усёй душы жадаем Вам, дарагі Уладзімір Мікалаевіч, добрага здароўя, творчых поспехаў і радасцей».**

*Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» таксама сардэчна віншуе юбіляра.*

# ЯШЧЭ НЕ АПОШНЯЯ АРБІТА...

Хто Уладзіміра Шыціка ведае даўно, той скажа—здорава памаладзеў чалавек да свайго юбілею! І не дзіва: чысцейшай душы, справядлівы і сумленны ва ўсім, Уладзімір Мікалаевіч ніколі не бывае сумны, нездаволены, ён умее прывабіць сваім аптымізмам чалавека, і трэба сказаць, што сяброў у яго багата, сяброў самых розных як па прафесіі, так і па поглядах, характарах. Там, дзе Шыцік, там цікава, у яго заўсёды безліч навін найшырэйшага дыяпазону, ад вынікаў шахматных баталій — ён сам кандыдат у майстры — да літаратурных і тэхнічных навінак. Чытае ён зайздросна многа, чытае самыя разнастайныя рэчы, нямала год аддаючы нялёгкай газетнай рабоце, карпатлівай працы над сваімі творамі.

Нялёгкі яго літаратурны шлях. Ён вельмі шмат шукаў, шукаў сваё, баючыся заманлівай штучнай літаратуршчыны, якая часам таго-сяго незаслужана выносіць на паверхню...

Найлепшай вучобай празаіка было само жыццё. Валодзя, як яго называюць усе знаёмыя, часта ездзіць у камандзіроўкі, піша нарысы пра калгаснікаў, пра інтэлігенцыю, пра рабочы клас рэспублікі, яе новабудоўлі. Цікавая і даволі арыгінальная кніга нарысаў «Колькі машын на палях?» — значны крок Ул. Шыціка ў гэтым нялёгкім жанры.

Першая яго кніга, у якую ўвайшлі дзве невялікія рэчы — «Сосны адшумелі сваё» і «Майская раніца», — якраз і апавядаюць аб станаўленні маладога рабочага класа рэспублікі. Але самае адметнае, што характарызуе Шыціка, як шукальніка, гэта фантастыка. Вельмі асцярожна бярэцца Уладзімір Мікалаевіч за гэту адказную справу. Тут у яго свая нялёгкая дарога, якую ён працярэбліваў ад твора да твора, дзе, бывала, каб напісаць старонку, яму даводзілася перагортваць тамы навуковых кніг, вышукваючы найбольш цікавыя і фантастычныя тэорыі, гіпотэзы і меркаванні.

Кніга «Апошняя арбіта», якая, дарэчы, выйшла на рускай і румынскай мовах, была той арбітай, што вынесла Шыціка да масавага чытача. Затым — «Зорны камень» і «Парсекі за кармой». Калі ў першых творах яшчэ назіраецца нейкая зададзенасць, скаванасць у распрацоўцы сюжэта, то ў апошняй кнізе адчуваецца прастора, шырыня светапогляду герояў, іх разваг, асмыслення часу і мэты жыцця. Карацей кажучы, у творах з'явілася новая якасць — філасафічнае асмысленне, напоўненасць. Творы пасталелі, набылі значную вагу. Пажадаем жа яму моцнага здароўя і вялікіх творчых удач!

Першыя пласты табою пройдзены, першыя вышыні ўзяты, але няхай будзе не апошняй твая арбіта ў касмічныя далячыні, наперадзе ў цябе яшчэ многа-многа парсекаў у тваёй нялёгкай, але такой удзячнай рабоце.

**Мікола ВАДАНОСАЎ.**

# РЫТМЫ НАД СОЖАМ

Нядаўна ў Палацы культуры чыгуначнікаў у Гомелі адбылася творчая справаздача калектываў абласной філармоніі. У першым аддзяленні выступіў эстрадны калектыў «Песні над Сожам». Гэта, на маю думку, адзін з самых цікавых калектываў Гомельскай філармоніі. Ядро яго — вакальна-інструментальны ансамбль «Сябры» (музычны кіраўнік М. Смаль). Ансамбль вызначаецца высокай культурай выканання. Адзінае, у чым можна папракнуць яго, — некаторае перайманне «Песняроў». Але будзем спадзявацца, што гэта — ад маладосці, што калектыў будзе шукаць і знаходзіць свае, арыгінальныя шляхі.

У адрозненне ад «Песняроў» у складзе «Сяброў» ёсць электрабалалайка і домра, дзякуючы якім ствараецца непаўторны каларыт інструментальнага суправаджэння. Спяваюць «Сябры» мякка, чыста нават празрыста.

У другім аддзяленні выступілі яшчэ два эстрадныя калектывы: «Рытмы часу» і «Палескія зоры». Апошні зусім малады, яго касцяк — нядаўнія выпускнікі Гомельскага музычнага вучылішча.

Калектыў «Рытмы часу» складаецца з інструментальнага ансамбля «Сувенір» (кіраўнік Р. Камінскі), танцавальнага — «Юнацтва» і салістаў — Е. Заўялавай і В. Зотава.

Калі «Сувенір», нягледзячы на даволі высокі прафесіяналізм, падобны да мноства іншых эстрадных ансамбляў, то кіраўнікі «Юнацтва» М. Радзёнава і А. Сувораў здолелі стварыць цікавы своеасаблівы танцавальны ансамбль.

Поспеху ансамбля «Рытмы часу», безумоўна, садзейнічаюць папулярныя спевакі Е. Заўялава і В. Зотаў. У Е. Заўялавай — мяккая манера выканання, яна прыемна паводзіць сябе на сцэне. Праўда, іншы раз ёй не хапае тэмпераменту, каб песня загучала больш шырока, больш шчыра, але палюбілася яна за выкананне працяжных, лірычных песень.

Канцэрт працягваўся доўга, можа, нават залішне доўга, але дзякуючы рэжысёру І. Цвярскому і канферансье А. Аляксандраву і А. Філаненка, якія надалі яму пэўны рытм, быў з цікавасцю ўспрыняты аўдыторыяй.

**І. ЛЕАНІДАЎ.**

ПА ВЫСТАВАЧНЫХ ЗАЛАХ

# ФАНТАЗІЯ. ГУСТ

У выставачнай зале аддзялення Саюза мастакоў БССР у Гомелі людна. Гамяльчане прыйшлі паглядзець на работы Мікалая Мікітавіча Пушкара.

Тут жа, на выстаўцы, мы сустрэлі і самога Мікалая Мікітавіча. Невысокі, па-юнацку падцягнуты, нягледзячы на свае пяцьдзесят год, ён прыкметна хвалюецца:

— Я ўжо многа год жыву на Палессі, у горадзе над Прыпяццю — Мазыры. За сваё творчае жыццё ўдзельнічаў у самых розных выстаўках, але ў Гомелі мае работы экспануюцца ўпершыню...

На выстаўцы 150 твораў Мікалая Мікітавіча. Мастак працуе ў жанры дробнай пластыкі. Глыбокае вывучэнне жыцця памагло яму ствэрыць змястоўныя работы.

Неяк у Капаткевічах мастак трапіў на вяселле, якое надоўга засталося ў памяці. У выніку жывога назірання нарадзілася статуэтка «Каравай».

Вось статуэткі «Лявон і Лявоніха», «Беларуская бульба», «Браткі-беларусы», «Беларускі волат», «Паўлінка», «Гусляр», «Палешукі»— усе яны ў нацыянальным характары. Мастак добра ведае вобразы беларускага фальклору, народныя звычаі і абрады. І яшчэ адно: амаль ва ўсіх работах— яскравы народны гумар. Вось жанравая сцэнка «Вячоркі», падобная на кароткае гумарыстычнае апавяданне. Такія ж сцэнкі «На вяселле нас зазвалі, чарку гарэлкі не далі...», «Мы з табою, як рыбка з вадою», «Заблудзіўся», «Палеская старадаўнасць», «А мы бульбу сеялі».

Мікалай Мікітавіч працуе і над сучаснай тэмай. Такія работы, як «Будаўнік», «Міліцыянер», «Хай заўжды будзе сонца!», «Прыпяцкі капітан», «Партрэт дзяўчыны-будаўніка» — аб сённяшнім Мазыры.

Наведвальнікам выстаўкі прыйшліся да спадобы кампазіцыі «На вячорках», «Нахлебнік», «Паляўнічы». Радасць сустрэчы з сапраўдным мастацтвам гамяльчане адчулі пры знаёмстве з работамі Мікалая Мікітавіча, прысвечанымі народным героям беларускага фальклору і літаратуры — Несцерку, Сымону-музыку, Тарасу на Парнасе і іншым.

На адкрыцці выстаўкі старшыня праўлення абласной арганізацыі Саюза мастакоў БССР Аляксандр Іванавіч Осіпаў падкрэсліў:

— Што датычыць керамікі Мікалая Пушкара, яна несумненна мае мастацкую каштоўнасць... У яго работах відаць імкненне да прастаты, дакладнасці сілуэта. Яго вобразы непаўторна індывідуальныя. Творы Мікалая Мікітавіча паказваліся на выстаўках за мяжой нашай краіны: у Польшчы, Японіі, Канадзе, дзе былі адзначаны прэміямі...



М. Пушкар сярод наведвальнікаў выстаўкі.

Аб поспеху выстаўкі сведчаць шматлікія запісы ў кнізе водгукаў і пажаданняў.



М. ПУШКАР. Вячоркі.



М. ПУШКАР. Юбілейны набор.
Фота Ул. ПРАТАПОПАВА.

Мікалаю Мікітавічу Пушкару нядаўна споўнілася 50 год. Ён прайшоў нялёгкі жыццёвы шлях. У дзяцінстве выхоўваўся ў працоўнай калоніі імя Максіма Горкага, якую ўзначальваў выдатны савецкі педагог А. Макаранка. У тыя гады М. Пушкар меў шчасце сустрэцца з вялікім пралетарскім пісьменнікам Аляксеем Максімавічам Горкім. Аляксей Максімавіч цікавіўся першымі спробамі ў мастацтве маленькага каланіста, рэкамендаваў яму вучыцца. Мікалай Пушкар выканаў наказ Аляксея Максімавіча.

**М. БАНДАРЭНКА.**

Гомель.

# ПАКУЛЬ ВЯДУЦЦА СПРЭЧКІ...

ГОД НАЗАД, у жніўні 1971 г., загадчык Асіповіцкага раённага аддзела культуры Адольф Міхайлавіч Цяцерын меў гаворку са старшынёй калгаса «Авангард» Васілём Трафімавічам Клімовічам:

— Дык трэба паслаць, Трафімавіч, ад вашага калгаса на курсы ў Магілёў чалавека. Будзе свой культработнік. Грошы ж не такія вялікія—763 рублі...

Толькі што прайшоў пленум, дзе якраз абмяркоўвалася адпаведнае рашэнне аблвыканкома, і старшыня быў настроены памяркоўна.

— Што ж, шукай кандыдатуру, і — калі ласка.

Праз нейкі час у калгас прыехаў загадчык аўтаклуба П. Санковіч і, уручаючы Клімовічу дагавор, сказаў:

— Знайшлі мы табе дзяўчыну. Люба Бяляўская з Малой Гарожы. Толькі што закончыла дзесяць класаў, удзельніца самадзейнасці.

— Трэба праверыць, ці ўмее яна пець ды танцаваць, — адказаў старшыня.

Невядома, ці была ўчынена тая праверка, але размова старшыні з кандыдаткай на курсы атрымалася нечакана вострай. Дзяўчыну, як кажуць, выставілі за дзверы. Другі раз да Клімовіча павёз яе сам Цяцерын. Але старшыні не было ў калгасе. Быў намеснік. Яму і падала Бяляўская заяву з просьбай накіраваць яе на курсы. Там жа была прыпіска: «Абавязуюся пасля вучобы працаваць у калгасе». Заяву неахвотна, але прынялі. (Праўда, яна потым некуды знікла. Відаць, проста выкінулі).

— Што ж рабіць? — трывожыўся загадчык аддзела культуры. — Курсы працуюць ужо!

— Не ведаю. Хай старшыня калгаса рашае, калі прыедзе, — пачулася ў адказ.

Але Цяцерын так і не дачакаўся старшыні і адправіў Любу ў абласны дом народнай творчасці без дагавору. Суцяшаў сябе тым, што Клімовіч не пакрыўдзіцца на яго за гэтае самавольства.

Атрымалася інакш. Даведаўшыся, што Бяляўская ўжо на курсах, Васіль Трафімавіч пакрыўдзіўся не на жарты. Вядома, можна было вярнуць дзяўчыну з курсаў і паслаць на яе месца другую, але... старшыня рашыў правучыць Цяцерына.

Што ж, старшыня калгаса мог і не падпісаць дагавору. Гэта яго права. Цяцерын не павінен быў без яго згоды адпраўляць Бяляўскую на курсы. Але і ён кіраваўся добрымі намерамі, хацеў дапамагчы калгасу ажывіць работу ў клубе, падвучыць і накіраваць сюды маладую работніцу.

Ішлі дні. Люба Бяляўская набывала спецыяльнасць культработніка. Ёй, як і іншым, плацілі стыпендыю — 35 рублёў у месяц. Як і іншыя, яна дыскутавала аб сваёй будучай рабоце, запісвала ўсё, пра што гаварылі выкладчыкі — хутка спатрэбіцца! Але яна была адзінай навучэнкай, якой нідзе ніхто не чакаў.

— Яна ж не калгасніца, — сказаў Васіль Трафімавіч Цяцерыну,—сям'я хоць і на тэрыторыі калгаса жыве, але да нас не адносіцца. Няхай Бяляўская ўступае ў калгас.

Люба згадзілася і напісала адпаведную заяву, але праўленне чамусьці рашыла, што яе нельга прыняць у калгас. Адмовілі, як кажуць, па ўсіх пунктах.

— Чаму ж вы яе не прынялі? — пытаюся я ў галоўнага бухгалтара калгаса «Авангард» К. Хлус.

— Таму што яна ў нас не працавала ніколі, — злосна даказвае жанчына.

Галоўны бухгалтар «кіпіць» ад раздражнення. Яшчэ шукай нейкія довады! І так усё ясна—чужачка, хоча пагрэць рукі на калгасных грошах. За што ёй плаціць, за вучобу?! Хто гэта выдумаў?

Але вернемся да працягу гісторыі. Чым далей, тым вышэй уздымаецца яе «дзевяты вал».

У красавіку 1972 года з рахунку калгаса «Авангард» было знята і пераведзена на рахунак абласнога ўпраўлення культуры 763 рублі. В. Клімовіч рынуўся ў «бойку». Калгас «Авангард» падаў у суд на абласное ўпраўленне культуры.

— Усё нібыта проста, — расказвае суддзя В. Марчышына. — Спісалі з калгаса грошы — трэба вярнуць іх. Але, па-першае, паўстала пытанне: калі спаганяць, дык не з абласнога ўпраўлення культуры (яно мела падставу патрабаваць за навучаннне), а з Цяцерына або з Бяляўскай... Ці правільна гэта будзе? Да таго ж, прадстаўнік калгаса прадэманстраваў нам такія адносіны да культурна-масавай работы на вёсцы і да маладых спецыялістаў па гэтым профілі, што мы проста па-чалавечы абураны... Паколькі ў справе ёсць дакументныя недакладнасці, мы вырашылі яе адкласці. Але, здаецца мне, трэба канфлікт гэты рашаць не юрыдычна...

Справа адкладзена. Тым часам Люба Бяляўская, атрымаўшы дыплом кіраўніка мастацкай самадзейнасці, два месяцы нідзе не працуе. А куды накіроўваць яе, на самай справе? Фармальна яна «належыць» «Авангарду». Але ж калгас усімі сродкамі адпіхваецца ад дзяўчыны. Пашлі яшчэ куды — а раптам усё ж справа вырашыцца станоўча? Хаця старшыня калгаса настроены змагацца да апошняга.

— Тройчы сустракалася з ім, старалася ўгаварыць, але дарэмна — гаворыць Ала Іванаўна Зуб, сакратар Асіповіцкага райкома партыі.

— Наш старшыня не выкіне грошы на вецер. Ён свайго не ўпусціць—падкрэслівае пазіцыю В. Клімовіча К. Хлус.

Некалькі месяцаў, можна сказаць, пакутуе райвыканком. Аднесці гэтыя 763 рублі за кошт РДК? «Аддаць» Бяляўскую ў які калгас, скажам, у калгас імя Леніна, які б перавёў грошы «Авангарду»? А можа возьме з суда назад сваю прэтэнзію сам Клімовіч? Навязаць нейкую пазіцыю яму не проста — ён чалавек прынцыповы, а калгас «Авангард»— гонар раёна, перадавік. Каму ж плаціць за Любу?!

Уся гэта гісторыя наводзіць на сумны роздум. Яна — сведчанне грэблівых адносін у некаторых калгасах да культработнікаў, іх нялёгкай работы на сяле. Вось некалькі ілюстрацый.

Пачну з тых, з кім сама гаварыла.

Эканаміст, член праўлення калгаса «Авангард» М. Налівайка:

«Нам культработнік не патрэбны. Няхай іх дзяржава вучыць...»

Галоўны бухгалтар калгаса К. Хлус:

«Хай бы ўзялі якую даярку, яна болей заслужыла, чым гэтая дзяўчына».

Юрыст, прадстаўнік калгаса ў нарсудзе:

«Замок у клубе адкрываць ды закрываць у нас знойдзецца каму і без курсаў».

Цяжка даказаць у такіх выпадках, што падрыхтоўка культработніка — гэта не курсы крою і шытва, што вучоба яго — важная дзяржаўная справа, а калгас усё-такі мае да гэтага нейкае дачыненне і што, нарэшце, работа культработніка — гэта не толькі адчыняць і зачыняць клуб.

Васіль Трафімавіч Клімовіч да нядаўняга часу разам са старшынёй калгаса «Чырвоны ўдарнік» І. Хічэўскім быў ініцыятарам многіх добрых спраў у раёне. У чатырох вёсках калгаса — клубы, некалькі гадоў стаіць пытанне аб будаўніцтве сельскага дома культуры (няма пакуль што для яго будаўнікоў, а грошы — хоць зараз). Здавалася, моцная сувязь ў яго з работнікамі культурна-асветных устаноў. А вось першы ж канфлікт— і няма ўзаемаразумення, ёсць прынцып, дзеля якога старшыня не хоча лічыцца з патрэбамі калгаса, крыўдзіць чалавека, які толькі яшчэ пачынае сваё працоўнае жыццё.

Загадчыка сельскага клуба ў сілу амаль што поўнай яго залежнасці ад кіраўніка гаспадаркі часта разглядаюць як падсобную адзінку: то пашлюць перапісваць насельніцтва або жывёлу, то пісаць якія справаздачы, то адпраўляюць на поле. Зразумела, у час уборкі, калі і горад едзе на дапамогу сялу, гэта апраўдана. Але калі замест таго, каб шукаць патрэбны рэпертуар, наладжваць самадзейнасць, рыхтаваць вечар—а што значыць добра яго правесці, ведае кожны! — культработнік з ранку да вечара працуе на выдзеленых яму сотках (у сярэднім на аднаго культработніка 25 сотак лёну і 10 сотак буракоў),— думаецца, гэта ўжо залішне. Можна назваць нямала калгасаў і саўгасаў, кіраўнікі якіх добра разумеюць такую мудрасць: «не хлебам адзіным жыве чалавек». Яны знаходзяць залатую сярэдзіну — і сябе не забываць, і клубу памагчы. Загадчык Бялыніцкага раённага аддзела культуры Л. Шчамлёва разводзіць рукамі: «Ну, не ведаю, каго назваць з лепшых. Усе дапамагаюць, варта толькі звярнуцца — і ў калгасе імя Энгельса, і ў «Камінтэрне», і ў калгасе імя Леніна...» Старшыня калгаса імя К. Маркса Крычаўскага раёна А. Ратабыльскі нядаўна да самай Адэсы дабраўся — заказаў там багата нагляднай агітацыі для клуба. Ды і той факт, што ў вобласці за апошнія два гады калгасы і саўгасы вывучылі пяцьдзесят аднаго кіраўніка мастацкай самадзейнасці, гаворыць пра многае.

Але чаму ўсё-такі Васіль Трафімавіч Клімовіч так лёгка адмовіўся ад Любы Бяляўскай? Чаму ён гэтак ставіцца да яе? Хіба ж яна сапраўды лішні чалавек у калгасе?

За час навучання ўчарашняя выпускніца палюбіла сваю прафесію. Доказ гэтаму—экзамены на завочнае аддзяленне культасветвучылішча, якія яна здае зараз, яе шчырае жаданне працаваць у калгасе «Авангард». Сціплая, сімпатычная дзяўчына гатова аддзячыць людзям, якія яе вучылі. Але дасюль у раёне рашаюць — каму плаціць за Любу?

**Вольга ІПАТАВА.**

рэдні край, эскадрылля змяніла строй. Позіркі лётчыкаў заслізгалі па зямлі, шукаючы цэль. У гэты час насустрач ім ішла другая, больш шматлікая група самалётаў. Стралок Чаранка—Гаранін, праводзячы яе позіркам, з задавальненнем заўважыў:

— Паглядзіце, таварыш старшы лейтэнант, якая армада вяртаецца з задання... Пасля іх нам і рабіць не будзе чаго.

У тэлефонах—невялікая паўза. Чаранок прыглёдзеўся і ўзбуджана ўсклікнуў:

— Гэта ж немцы ідуць!

— Як немцы?—здзівіўся Гаранін.—Якраз як нашы «ілы».

— Немцы,—пацвердзіў Чаранок.—Ты што, фашыстаў ад сваіх не адрозніваеш?

Засланіўшыся ад сонца рукой, ён працягваў назіраць.

«Нешта тут нядобра... Куды яны накіроўваюцца?—з непакоем думаў ён.—Навошта транспартным «юнкерсам» спатрэбілася ляцець на нашу тэрыторыю?»

Позірк яго спыніўся на палётнай карце, у тым месцы, дзе быў нанесены чырвоны кружок, што абазначаў акружаную групіроўку ворага. Гэтага было дастаткова. Ён зразумеў, што нямецкія транспарты ляцяць да акружаных.

Вялікае жаданне не прапусціць ворага перамагло ўсё. Чаранок азірнуўся: штурмавікі ішлі па-ранейшаму за ім, спакойна манеўруючы, а зверху, апісваючы паўкругі, ляцелі знішчальнікі прыкрыцця.

— Гэй, «залатнікі», чуеце? Пакіньце мяне. Перахоплівайце пяцьдзесят другіх,—загадаў Чаранок «лавачкіным».

— Даўно б так...—сказаў вядучы знішчальнікаў і крыкнуў напарніку:—Мікалай, увага!

Крута развярнуўшыся, «лавачкіны» кінуліся да «юнкерсаў».

«Трэба дапамагчы маленькім! — настойліва свідравала галаву Чаранка адна і тая ж думка.—Але як? У «ілах» поўны груз бомбаў. Лётчыкі маладыя, могуць у штопар пазрывацца».

Чаранок вагаўся. Секунды беглі, і адлегласць паміж штурмавікамі і «юнкерсамі» ўсё павялічвалася.

Ад напружання Чаранка кінула ў пот.

Ён азірнуўся. Ад «лавачкіных» да немцаў пацягнуліся ўжо доўгія вогненныя струмені, але «юнкерсы», адстрэльваючыся, упарта паўзлі на ўсход. І тут жа Чаранок ясна ўявіў сабе, як зграя акружаных гітлераўцаў у адчаі мітусіцца па лесе, ловіць скінутыя транспартамі парашуты, паспешліва ўскрывае мяшкі з прадуктамі, набівае кішэні патронамі, гранатамі і зноў ідзе ў бой, і зноў гінуць савецкія людзі. Не раздумваючы далей, ён крута павярнуў самалёт назад.

— Вася, казытнем таўстабрухіх?—зразумеўшы яго манеўр, крыкнуў узбуджаны Астап.

— Выходзь па фронту!—коратка загадаў Чаранок.

Штурмавікі, падцягваючыся ў адну лінію, паімчаліся наўздагон. Прайшло некалькі хвілін, і васьмёрка «ілаў» урэзалася ў строй немцаў. «Юнкерсы» закруціліся, замітусіліся. Адзін з іх пачаў разварочвацца назад, цягнучы за сабой астатніх.

З-пад іх цэнтрпланаў пасыпаліся цыгарападобныя мяшкі грузавых парашутаў. Белыя купалы раскрываліся, і грузы, не даляцеўшы да месца прызначэння, спускаліся ў рукі савецкіх байцоў. «Ілы» змяшаліся з «юнкерсамі». Пачалося тое, што лётчыкі называюць боем на знішчэнне, а людзі на зямлі—неразбярыхай, «кашай»... «Лавачкіны», як беркуты, кідаліся зверху на ворагаў, клявалі, прыціскалі да зямлі, дзе штурмавікі сустракалі іх сваім агнём. Астап убачыў, як з крылаў самалёта Чаранкова выррваліся малінавыя язычкі гарматных стрэлаў, і фашысцкі самалёт, сутаргава ўздрыгваючы, пачаў падаць.

— Ага! Атрымаў за сваё!—крыкнуў Астап, сочачы за «юнкерсам», які знік у лясным гушчары. Праз секунду адтуль ускінуўся сінявата-жоўты слуп агню.

— Амінь!—абвясціў Астап. У гэту хвіліну ледзь не ўрэзаўся ў яго самалёт другі падбіты «юнкерс». Астап імгненна слізгануў убок і злавіў яго ў прыцэл. Прапоры чаргой самалёт загарэўся.

— Хутчэй, хутчэй штопары, старое карыта!—крычаў Астап.

У гарачцы боя ён забыў выключыць перадатчык, і яго воклічы, запальчывыя выкрыкі і нават перарывістае частае дыханне, скажоныя радыёперашкодамі, чутны былі ўсім, хто настроіўся на хвалю штурмавікоў.

Бой быў у разгары, калі Аленін, вылецеўшы на заданне на дзевяць мінут пазней за Чаранка, з'явіўся са сваёй групай на гарызонце. Валодаючы рэдкай дальназоркасцю, ён раней за іншых убачыў у небе жывы клубок машын.

— Паслухай, Папоў, што гэта там наперадзе робіцца? — запытаўся ён.

Папоў спакойна адказаў:

— Здаецца, б'юцца...

У прыёмніках з кожнай секундай усё выразней прарываліся адгалоскі бою. Аленінская група падышла бліжэй. Цяпер ужо можна было заўважыць тых, хто б'ецца.

— Ты глядзі, фашысцкія транспартнікі над нашай тэрыторыяй! Гм... на лаўца і звер бяжыць... Ці-і-ка-ава... — раздзельна прагаварыў Аленін, адчуваючы, як усё цела пранізалі нервовыя дрыжыкі.

Намагаючыся падавіць у сабе гэта непрыемнае адчуванне, якое расцэньвалася ім, як падсвядомы страх, ён абыякава-лянівым голасам сказаў:

— Папоў, давай атакнём «юнкерсаў»...

Яго рашэнне не было для Папова нечаканым. Ён разумеў, што ў душы Аленіна штурмавіка ўсё яшчэ жыве знішчальнік—чалавек паветраных паядынкаў і высокіх хуткасцей. Аленін ніколі не ўпускаў самай малой магчымасці збіць ворага ў паветраным баі. Рабіць інакш ён не мог.

Немцы былі побач. Ужо можна было адрозніць апазнавальныя знакі на бартах іх машын, ужо над самай галавой Аленіна мільганула дрыгатлівая траса, у крутым віражы праімчаўся нейчы «іл» з белай чайкай на борце.

«Нашы севастопальцы...»—мільганула думка.

І тут жа проста перад ім вырас раздзьмуты, як бруха акулы, фюзеляж варожага самалёта. Крутым паваротам Аленін ускінуў цяжкую машыну і злавіў у колца прыцэлу кабіну «юнкерса». Чарга прашыла фашысцкі транспартнік. Вораг рухнуў.

— Ёсць! — прагучаў у эфіры радасны голас Аленіна.

У кабіне рэзка запахла гарам парахавых газаў —гэта ззаду стараўся стралок, даючы з кулямёта чаргу за чаргой.

— Перастань, чорт лазаты, перастань страляць! З чым на заданне пойдзеш?—асадзіў яго Аленін.

Стралок замоўк. Бой закончыўся. Унізе, на галінках дрэў, нібы рамонкі ў траве, бялелі раскіданыя купалы парашутаў. У ваколіцах дагаралі сем збітых «юнкерсаў». Групы штурмавікоў, пастроіўшыся чацвёркамі, як ні ў чым не бывала, паляцелі на захад выконваць галоўнае заданне—штурмоўку эшалонаў ворага.

Вярнуўшыся на аэрадром, лётчыкі з групы Аленіна гуртам рушылі на камандны пункт, ажыўлена размаўляючы аб толькі што зробленым вылеце. Чаранок, які прыляцеў на пяць мінут раней, ужо дакладваў Хазараву аб выкананні задання:

— Па маршруту да цэлі сустрэў групу самалётаў, якая ляцела курсам на ўсход, у раён акружанай групіроўкі,—гаварыў ён.—Уступіў з імі ў бой. Збіта сем самалётаў. Чатыры збілі «лавачкіны», аднаго—лейтэнант Пуля, другога—я ў пары з Зандаравым, а трэцяга—лейтэнант Аленін, які падляцеў да нас ужо ў канцы бою. З наземнымі радыёстанцыямі трымаў двухбаковую сувязь, на збітыя самалёты пацвярджэнні будуць прысланы. Абяцалі наземнікі...

— Добра, старшы лейтэнант,—пагладжваючы вусы, сказаў Хазараў.—Паведаміце капітану Рагозіну разведдадзеныя, а самі збірайцеся ў дарогу. Паляціце ў Арол. Генерал прышле па вас самалёт. Вернецца з задання падпалкоўнік Грабаў, ён вас выкліча і ўвядзе ў курс справы, — шматзначна паабяцаў Хазараў і павярнуўся да дзвярэй, у якія ўваходзіў Аленін.

— Дазвольце далажыць, таварыш падпалкоўнік?—шчоўкнуў абцасамі Аленін.

— Дакладвайце.

Аленін коратка паведаміў вынікі штурмоўкі аўтакалоны, на якую быў пасланы. Потым расказаў, як на маршруце наткнуўся на групу «ілаў», якія біліся з транспартнымі «юнкерсамі», і дапамагаючы ім збіў адну машыну.

— Вось, калі ласка, палюбуйцеся на яго! І гэты туды ж,—усклікнуў Хазараў.—Хто ж вас прымусіў увязвацца ў бойку з поўным грузам бомбаў? Людзей мне ўгробіць хочаце? Вы забылі, у чым ваша галоўная задача?..

— Не, таварыш падпалкоўнік. Галоўная наша задача—знішчаць ворага на зямлі, на вадзе і...—Аленін, памарудзіўшы, з ледзь улоўнай усмешкай у вачах дадаў:—і ў паветры.

Заўзяты прыхільнік статутных парадкаў, пунктуальнага, безумоўнага выканання воінскіх загадаў, Хазараў вельмі скупіўся на пахвалы, нават калі людзі яўна заслугоўвалі іх. Але адказ Аленіна, кароткі, па-ваеннаму дакладны, яму спадабаўся. Спадабаўся таму, што ён наогул быў задаволены пачаткам баявых дзеянняў палка на Беларускім фронце, задаволены ўзрослым баявым майстэрствам лётчыкаў, хоць па старой прывычцы працягваў бурчаць, з цяжкасцю стрымліваючы ўсмешку, разгладжваючы свае непаслухмяныя вусы.

— Асы... Лезеце туды, куды вам не належыць,—бурчаў ён.

— Я толькі хацеў дапамагчы, таварыш падпалкоўнік,—апраўдваўся Аленін, хоць цвёрда ведаў, што зрабіў правільна і камандзір задаволены ім.

— Ці не ўсё роўна...—прытворна зазлаваў Хазараў.—«Не ўмер Гаўрыла, так галушка задавіла...» І кім я толькі камандую?—камічна развёў ён рукамі.—Тут, аказваецца, не штурмавікі, а адны знішчальнікі...

— Таварыш падпалкоўнік,—падаў голас Рагозін,—яны за гэта заслугоўваюць узнагароды.

— Не лезьце наперад за бацьку ў пекла... Ведаю сам,—накінуўся на яго Хазараў.—Рыхтуйце лепш узнагародныя лісты. Пашлем.—І пасля невялікай паўзы паўтарыў:—Пашлем, калі будуць пацвярджэнні... А вы ідзіце адпачывайце. Асы... —усміхнуўся ён, адпускаючы лётчыкаў.

Лётчыкі, чотка павярнуўшыся, выйшлі.

— Бачыў?—з бацькоўскай гордасцю сказаў Хазараў. Рагозіну, ківаючы галавой ім услед.

□

...Штурмавыя ўдары па мінскай групіроўцы праціўніка лётчыкі Хазарава наносілі з новага аператыўнага пункта. Чаранок дагнаў свой полк у невялікай вёсцы, на правым беразе Дняпра. Ужо ў густым змроку, калі на аэрадроме наступіла цішыня, жыхароў патрывожыў раскацісты гул адзінокага «іла», які праскочыў над самымі дахамі.

— Хто гэта так позна? Нашы, здаецца, ужо ўсе дома...—сказаў маёр Гудаў, выглянуўшы з-пад зялёнага палатнянага навесу, пад якім у гэты час вячэралі лётчыкі. Праз мінуту самалёт планіраваў ужо, выпусціўшы шасі на пасадку. З яго крыла вырваўся яркі прамень пражэктара. Прарэзаўшы цемру, ён асвятліў наперадзе ў сябе зямлю, дзе павінен быў ляжаць белы пасадачны знак, які з-за позняга часу ўжо згарнулі.

Лётчыкі нібы па камандзе адклалі лыжкі ў бок і ўсталі з месца. Усе з напружанай увагай назіралі, чым закончыцца гэта начная пасадка. Яна вельмі рэдка здараецца ў практыцы штурмавікоў. Пасадзіць уначы «іл» не так-та проста! Але той, хто прыляцеў, відаць, не вельмі бянтэжыўся. Ён упэўнена падвёў машыну і кранууся зямлі строга трыма кропкамі.

— Па-майстэрску пасадзіў! Як прыцёр! Выдатная пасадка!—раздаліся галасы лётчыкаў.

Хазараў, працягваючы старанна націраць часнаком скарынку хлеба, паклікаў Рагозіна:

— Капітан! Адарвіцеся на хвілінку і пашліце мой «пікап» па Чаранка. Няхай вязуць яго сюды.

— Таварыш падпалкоўнік, дазвольце запытацца?—задаў яму пытанне Рагозін, устаючы з-за стала.

— Пытайцеся.

— Чаму вы лічыце, што гэта менавіта Чаранок?

— Таму што ў кожнага лётчыка, як і ў кожнага музыканта, ёсць свой уласны стыль выканання, уласцівы толькі яму аднаму. Па пасадцы я пазнаў почырк Чаранка. Калі вы гэтага ніколі не заўважалі, вам цяжка будзе зразумець. Выконвайце загад.

Рагозін пайшоў да выхаду, але яго апярэдзіў стралок Гаранін. Надзяваючы на хаду пілотку, ён папрасіў дазволу з'ездзіць па свайго камандзіра. Капітан дазволіў, і Гаранін, стукнуўшы брынклівымі дзверцамі «пікапа», паімчаў на стаянку.

Праз пяць мінут «пікап» спыніўся ля сталовай. З яго сапраўды вылез Чаранок у суправаджэнні Гараніна, які цягнуў на плячы скрынку.

Выслухаўшы даклад Чаранка аб пералёце з Арла, Хазараў адпусціў яго вячэраць. Першае, што здзівіла лётчыка, калі ён прысеў да стала Астапа, гэта незвычайнае мноства вэнджаных каўбас, пададзеных на вячэру.

— Астап, дзе гэта начальнік забеспячэння мясакамбінат рэквізаваў?

— Гэта, братка, нямецкі бог нам замест маннай кашы каўбасу скінуў з неба...—сказаў Астап.

— А ўсё-такі, адкуль?—перапытаў Астап.

— Не, жартую—з неба...—пацвердзіў Астап.

— Памятаеш наш апошні бой з транспартнымі «юнкерсамі»?—умяшаўся ў размову Аленін. —Дык вось гэта, уяві, тая самая каўбаса, якую яны везлі сваім схуднелым акружэнцам і якая па нашай віне не дайшла да адрасата. Прыязджаў пазаўчора да нас адзін таварыш. Прывёз пацвярджэнні на збітых «юнкерсаў», выпіску з загаду камандуючага сорак восьмай ударнай арміі, дзе нам аб'яўлена падзяка, а разам з гэтым тры мяшкі трафейнай каўбасы на нашу долю. Вось мы і балюем ужо два дні.

— А я таксама прывёз вам падарунак. Ад кубанскіх калгаснікаў...—успомніў Чаранок і крыкнуў Гараніну:—Нясі, Пеця, сюды скрынку!

Пад цікаўнымі позіркамі лётчыкаў скрынка была ўскрыта. У ёй аказаліся яйкі, укладзеныя роўнымі радамі ўперамешку з саломай.

— Эге, таварышы! Ды тут я бачу зноў кубанская яечня намячаецца... Клічце повара, даю рэцэпт палкавой яечні: сто яек плюс дзесяць кілаграмаў каўбасы, плюс пяць мінут цярпення, і вы пакаштуеце нешта такое, што зусім не будзе падобна на амлет з амерыканскага яечнага парашка!—абвясціў Астап.

Праз чвэртку гадзіны афіцыянткі прынеслі патэльні, на якіх скварэла сала.

Раніцай прыйшоў новы загад. За ноч абстаноўка на фронце настолькі змянілася, што палку давялося мяняць базу на новую, размешчаную на захад ад Мінска. Войскі фронту выйшлі на лінію Гродна—Беласток.

Пераклад з рускай мовы.

# НАРОДЖАНЫ НА ЗЯМЛІ НАВАГРУДСКАЙ...

У СНЕЖНІ 1925 года ў Мілане стаяла на рэдкасць сырое надвор'е. Густы туман ахутваў шчыльнай шэрай заслонай велізарны будынак сусветна вядомай акадэміі італьянскага «бельканта» — тэатра «Ла Скала». У гэтую імжу асабліва вабіла раскошная малінавая зала тэатра. Больш за тры тысячы шчасліўцаў запаўнялі яе, рассаджваючыся ў партэры, ложах бенуара, на ярусах. Давалі «Барыса Гадунова». У галоўнай партыі выступаў савецкі спявак Платон Цасевіч.

Італьянская прэса з захапленнем пісала аб прыгажосці магутнага баса гэтага артыста, пра яго вакальна-сцэнічную культуру, у якой ён не ўступаў вялікаму Шаляпіну. З трыумфам прайшлі ніядаўнія выступленні Цасевіча ў Фларэнцыі, Неапалі, Рыме.

І вось, нарэшце, доўгачаканая сустрэча міланцаў з пакуль што незнаёмым ім двайнікам Шаляпіна...

Узнялася заслона... Загучаў голас Цасевіча. Ён лёгка перакрываў магутнае гучанне аркестра і запаўняў кожны куток тэатра. Моцнае ўражанне пакінулі сцэна галюцынацый з II дзеі і сцэна смерці засмучанага пакутамі сумлення разумнага палітыка і глыбока няшчаснага чалавека Барыса Гадунова.

На наступны дзень усе газеты наперабой складалі гімны голасу, вакальнай школе, драматычнаму таленту спевака, адзначаючы, што Цасевіч першым жа з'яўленнем на сцэне «Ла Скала», заваяваў Італію. Пра яго талент з захапленнем пісалі буйнейшыя крытыкі Францыі, Італіі, Германіі, Румыніі і іншых краін. Робячы турнэ па гэтых краінах разам з Ф. Шаляпіным, з якім спяваў па чарзе галоўныя партыі ў операх «Барыс Гадуноў», «Хаваншчына», «Русалка», «Князь Ігар», «Дон Карлас», «Севільскі цырульнік», ён карыстаўся не меншым поспехам, чым яго славуты друг. Ні казачныя ганарары, ні спакуслівыя прапановы антрэпрэнёраў не здолелі пахіснуць унутранай рашучасці Цасевіча вярнуцца на радзіму.

Рыхтуючыся да ад'езду ў СССР пасля выступлення ў партыі Дасіфея ў «Хаваншчыне», калі берлінскія газеты назвалі яго «нераўзыдзеным велічна-мудрым Дасіфеем, плоццю ад плоці рускага народа», Цасевіч гаварыў Шаляпіну:

— Ні дня, ні гадзіны не магу я жыць без радзімы, Федзя. Дзе б я ні быў, няхай гэта цудоўная Францыя або прамяністая Італія, стаіць перада мной мая радзіма. І здаецца, што лепш за Маскву, Кіеў, Віцебск і няма гарадоў на зямлі. А яшчэ, яшчэ ёсць вёска Нягневічы пад Навагрудкам. Нарадзіўся там...

Платон Іванавіч Цасевіч нарадзіўся 25 лістапада 1879 года ў беднай сялянскай сям'і на Гродзеншчыне.

У сям'і спявалі і маці, і бацька. Асабліва хвалявалі душу хлопчыка меладычныя беларускія песні, якія так хораша спяваў бацька. Песня вырывалася з курнай бярвенчатай хаты на заснежаную прастору палёў... Песня хвалявала хлапечую душу, аддаючыся трапяткім болем ва ўсёй яго юнай істоце...

Але галеча сагнала сям'ю з родных мясцін.

18-гадовым хлопцам Платон Цасевіч паступае на Екацярынаслаўскі металургічны завод, дзе працуе мадэльерам у ліцейным цэху. К таму часу ўзмужнеў голас Платона, ператварыўшыся ў прыгожы баскантантэ. Платон любіў спяваць. Шумна палалі мартэнаўскія печы, але свабодна перакрываў іх дыханне магутны голас юнака. Нешта надзвычай прывабнае было ў гэтым голасе.

Упершыню зразумеў Платон, што валодае ён вялікім багаццем...



Платон Цасевіч у ролі Мефістофеля (аднайменная опера А. Бойта).

Чуткі аб цудоўным голасе мадэльера, голасе, які здольны высякаць полымя, выйшлі за межы завода, разліліся па Екацярынаслаўлі. І «сам» архіепіскап просіць Платона спяваць у архірэйскім хоры. То быў немалы гонар. Менавіта ў архірэйскім хоры пачуў юнага спевака вядомы музыкант і педагог Іосіф Левін, які прапанаваў Цасевічу дапамогу. Але доўга займацца ў Левіна не давялося, бо сумяшчаць сур'ёзную работу над удасканаленнем вакальнай тэхнікі з цяжкай працай у гарачым цэху, дзе ён стаяў ля мартэнаў па 10—12 гадзін, практычна было немагчыма. Выйсце знайшлося выпадкова. Антрэпрэнёр невялікай аперэтачнай трупы Балсуноўскі ўгаварыў Платона паступіць у хор. Велізарнае пачуццё радасці, што ён пры тэатры, засланяла і беднасць трупы, і жабрацкае яго становішча. Часта ён працаваў толькі за кавалак хлеба.

Калі знаёмішся з пакручастым жыццёвым шляхам юнака з вёскі Нягневічы, задаеш сабе пытанне: адкуль ён чэрпаў сілы пераадольваць усе перашкоды і што клікала яго ў свет мастацтва? Зразумела, перш-наперш хочацца сказаць — талент. Платон Цасевіч быў надзвычай адораным ад прыроды натурай. Ён прагна вучыўся ўсюды, дзе толькі можна было ўзяць урокі харства і майстэрства. Хай сабе перад ім быў сярэдні прафесійны спявак, Платон слухаў, запамінаў, пераймаў нешта карыснае. Так было на рускай сцэне. Так было і ў трупе Украінскай музычнай камедыі, куды маладога спевака запрасілі ўжо на выкананне першых партый. Тут ён пасябраваў са старэйшымі па ўзросце і па вопыце Панасам Саксаганскім і Міколам Садоўскім. Гэта яны адчулі ў ім вялікі талент, даверылі становішча першага баса, не шкадавалі часу, рэпеціруючы з ім партыі ўкраінскага рэпертуару. А Платон быў захопленым і ўдзячным вучнем: на кожным спектаклі нешта адкрываў новае ў раней вывучанай ролі, дадаваў новыя рысы сцэнічным партрэтам, узбагачаў партыі нюансамі, аб якіх можна сказаць, што іх падказвала яму яго артыстычная індывідуальнасць. І з часам усё больш вылучаўся нават сярод сталых артыстаў.

Хутка ён падпісвае кантракт з Харкаўскай гарадской операй. Збылася запаветная мара — ён стаў оперным артыстам. Пад кіраўніцтвам вучня М. Рымскага-Корсакава дырыжора Л. Штэйнберга ён авалодвае асноўным басовым рэпертуарам, спявае часта, карыстаецца шумным поспехам у харкаўчан.

Увосень 1905 года імя Цасевіча часта з'яўляецца на афішах Опернага таварыства ў Пецярбурзе. Але менавіта Кіеўскай гарадской оперы суджана было стаць тым месцам, дзе найбольш поўна сфарміраваўся талент Цасевіча, спевака і акцёра. Ён дэбютуе ў партыі Мельніка ў оперы А. Даргамыжскага «Русалка». З першых жа фраз дэбютант прыкаваў увагу слухачоў. Заваражваў не толькі рэдкі па прыгажосці бас, але і драматычная ігра, якая дасягала ў трэцім акце ў сцэне на беразе Дняпра сапраўды трагедыйнага напалу. Выкананне партыі Мельніка вызначалася глыбокім разуменнем псіхалогіі персанажа, натуральнасцю ў перадачы пачуццяў, прастатой і высокай тэхнічнай дасканаласцю.

Услед за бліскучым Мельнікам Шаляпіна Платон Цасевіч застаецца непераўзыдзеным інтэрпрэтатарам гэтага вобраза, хоць савецкі оперны тэатр даў нямала выдатных выканаўцаў гэтай партыі, сярод якіх браты Р. і А. Піраговы, М. Міхайлаў, М. Рэйзен...

Год ад году папаўняецца рэпертуар спевака. У ім з'яўляюцца партыі Мефістофеля, Сусаніна, Варажскага госця, хана Канчака, Уладзіміра Галіцкага, дона Базіліо, Філіпа II, Качубея і іншых.



Платон Цасевіч у ролі Мельніка (опера «Русалка» А. Даргамыжскага).

Новы этап у творчасці артыста наступае з моманту запрашэння яго ў трупу Маскоўскага Вялікага тэатра, у якой сабраліся ў 1915 годзе ўсе лепшыя артыстычныя сілы.

Вялікую Кастрычніцкую сацыялістычную рэвалюцыю Цасевіч сустракае як і належыць сумленнаму сыну працоўнага народа. Ён актыўна ўключаецца ў будаўніцтва новай культуры.

У спецыяльным вагоне артыст аб'язджае станцыі, паўстанкі і раз'езды, дзе на яго канцэрты збіраюцца чыгуначнікі, чырвонаармейцы і сяляне з бліжэйшых сёл. Яго часта слухаюць жыхары Адэсы, Баку, Тыфліса, Ніжняга Ноўгарада, Петраграда, Масквы і многіх іншых гарадоў ва ўсіх кутках неабдымнай краіны. Вядомы кампазітар і крытык, асабісты сябра Ф Шаляпіна, Юрый Сахноўскі пісаў у маскоўскім часопісе «Театр и музыка» (№ 13 за 1922 г.): «Цасевіч рэдкі госць, але госць дарагі. Гэта артыст, у класных якасцях якога як вакальных, так і сцэнічных сумнявацца не даводзіцца... Што асабліва важна адзначыць — дык гэта яго цэласную самабытнасць у трактоўцы партый. Ён просты, шчодры і праўдзівы, ён выклікае глыбокія пачуцці і нідзе ні на ёту не капіруе Шаляпіна, які наклаў свой адбітак на выкананне басовых партый».

У 1935 годзе П. Цасевічу прысвойваецца ганаровае званне заслужанага артыста РСФСР, а ў 1947 годзе—народнага.

15 лютага 1948 года 69-гадовы Платон Іванавіч Цасевіч закончыў сцэнічную дзейнасць вялікім канцэртам у зале Маскоўскай кансерваторыі імя П. І. Чайкоўскага.

Захаваўся запіс гэтага канцэрта. Ён данёс да нас не толькі чароўнасць таленту вялікага спевака, але і адносіны слухачоў да карыфея рускай оперы. Рэакцыя залы на выкананне Цасевіча была цёплая і шчырая.

Памёр Платон Іванавіч у 1958 годзе. Яго мастацтва, адухоўленае глыбокай чалавечнасцю, назаўсёды ўвайшло ў залаты фонд рускага савецкага тэатра.

**Ул. ЯФРЭМАЎ.**

# Р. В. ДЗІДЗЕНКА



Пасля цяжкай працяглай хваробы памёр артыст Беларускай дзяржаўнай філармоніі Рыгор Васільевіч Дзідзенка. Беларускае мастацтва страціла таленавітага майстра эстрады, які карыстаўся шырокай папулярнасцю ў гледачоў.

Р. В. Дзідзенка нарадзіўся 12 лютага 1917 года ў сялянскай сям'і. Скончыўшы ў 1938 годзе Варонежскае дзяржаўнае тэатральнае вучылішча, ён на працягу некалькіх гадоў быў артыстам Ансамбля песні і танца пагранічных войск. У гады Вялікай Айчыннай вайны прымаў удзел у партызанскім руху на тэрыторыі Беларусі. Пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў працаваў дырэктарам Мінскага абласнога дома народнай творчасці, начальнікам Мінскага абласнога ўпраўлення культуры. У 1947 годзе Р. В. Дзідзенка перайшоў на творчую работу ў Беларускую дзяржаўную філармонію і з гэтага часу нязменна кіраваў адным з эстрадных калектываў. У складзе канцэртных брыгад Р. В. Дзідзенка прадстаўляў беларускае эстраднае мастацтва ў шматлікіх паездках па рэспубліках СССР, а таксама ў зарубежных краінах.

Р. В. Дзідзенка быў таленавітым і самабытным артыстам размоўнага жанру, чалавекам высокай грамадзянскасці. Яго рэпертуарныя пошукі заўсёды былі ў рэчышчы развіцця савецкай эстрады, канцэртныя маналогі, фельетоны, рэпрызы ў яго выкананні служылі справе выхавання ў гледачоў лепшых якасцей новага чалавека, выкрывалі заганы і перажыткі мінулага. Выканаўчая манера артыста вабіла культурай, уменнем устанаўліваць сардэчныя кантакты з глядзельнай залай, грамадзянскай патэтыкай і тонкім пачуццём гумару.

Патрабавальны да сябе, да сваёй творчасці, прынцыповы і чулы таварыш, Р. В. Дзідзенка карыстаўся аўтарытэтам і павагай калектыву.

За вялікія заслугі ў галіне мастацтва Р. В. Дзідзенку было прысвоена ганаровае званне заслужанага артыста БССР. Ён быў узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі, баявымі і працоўнымі медалямі.

Светлы вобраз Рыгора Васільевіча Дзідзенкі захаваецца ў сэрцах таварышаў па рабоце і ўсіх, хто ведаў яго жыццесцвярджальнае мастацтва.

**Група таварышаў.**

# ПАМЯЦЬ АБ СЯБРУ

Усе мы, сябры і калегі Рыгора Дзідзенкі, любілі і паважалі яго. Такое стаўленне да яго склалася даўно, пра яго не скажаш дзяжурную фразу спачувальнага пакаяння—«не ацанілі, не зберaглі».

У журботны дзень развітання я бачыўся з многімі работнікамі нашай філармоніі, якая была родным домам Дзідзенкі на працягу чвэрці веку. Не перабольшваю: адчуванне беззваротнай страты тут такое ж глыбокае, як і ў доме сям'і нябожчыка. Мы ўспаміналі ў той дзень многае і рознае, звязанае з жыццём і творчасцю Рыгора Васільевіча...

Мне запомніўся студзеньскі дзень 1970 года, калі я, будучы ўдзельнікам усесаюзнага семінара драматургаў у Ялце, запрасіў вялікую групу пісьменнікаў розных рэспублік на гастрольны канцэрт Рыгора Дзідзенкі і яго эстраднага калектыву. Я быў перакананы, што канцэрт спадабаецца, і не памыліўся, але размова пасля канцэрта, прызнацца, была для мяне нечаканай. Мае калегі ўбачылі ў таленце Дзідзенкі такую самабытнасць, такія магчымасці, што мне было крыху няёмка: відаць, я быў і гультаяваты, і нецікаўны, і не заўважыў многага, што павінен быў заўважыць.

Многае збіраўся яшчэ зрабіць на эстрадзе артыст Рыгор Дзідзенка. Многае маглі мы яшчэ зрабіць з ім разам. Смерць перашкодзіла гэтаму.

...Але светлая памяць застанецца аб табе, дарагі Рыгор Васільевіч!

**Пётр ХАРКОЎ.**

# ГОРАД МУЗЫКІ

АБЛІЧЧА Прагі няспынна мяняецца. Ды і эпітэты ў яе розныя. Яе называюць «залатой», а таксама, па справядлівасці «стовежавай». Прага — гэта, вобразна кажучы, каменны аркестр, у якім узвышаюцца барочныя храмы і палацы, манументы гатычных кафедральных сабораў і рэнесансных збудаванняў. Гэта горад, на які наклала свой адбітак багатае мінулае, горад, у якім сучаснае набывае гістарычныя памеры. І, далёка не ў апошнюю чаргу, Прага — гэта горад музыкі.

Сталіца Чэхіі, краіны, якая калісьці трапна называлася «кансерваторыяй Еўропы», ганарыцца моцартаўскай традыцыяй, якая і зараз жыве, няспынна падтрымліваецца. Але не толькі Моцарта акружалі ў Празе любоўю і ўвагай. Прага гасцінна сустракала і іншых волатаў музыкі: Берліёза, Ліста, Вагнера, Чайкоўскага, Грыга і многіх іншых кампазітараў і музыкантаў.

Зараз мы хочам пагаварыць не так пра гісторыю, хоць яна вельмі багатая і цікавая, як пра сучаснасць музычнай Прагі.

У сталіцы ЧССР маюцца тры оперныя сцэны. Оперныя спектаклі ставяцца ў гістарычным будынку Нацыянальнага тэатра, у тэатры імя Тыла, што захаваў сваё першапачатковае аблічча з таго часу, калі на яго сцэне адбылася прэм'ера «Дон-Жуана» Моцарта, і ў тэатры імя Сметаны, які якраз перабудоўваецца. Гэты тэатральны комплекс мае агульнае мастацкае кіраўніцтва і салістаў ансамбля, але ў тэатрах выступаюць два аркестры і два хоры. У Празе ёсць яшчэ і дзве сцэны Музычнага тэатра, дзе ставяцца аперэты і музычныя камедыі і выступаюць ансамблі невялікага складу.

Сярод аркестраў адно з першых месцаў належыць аркестру Чэшскай філармоніі. Да філармоніі адносіцца і Пражскі філарманічны хор. Адзін з лепшых аркестраў горада — гэта аркестр «Пражскія сімфаністы». У Празе выступаюць сімфанічны аркестр Чэхаславацкага радыё. Пражскі камерны аркестр без дырыжора і, прынамсі, дзесятак іншых невялікіх аркестраў. А камерных ансамбляў у Празе столькі, што адно толькі пералічэнне заняло б цэлыя старонкі.

Галоўныя канцэртныя залы ў Празе—зала імя Сметаны, якая змяшчае каля 1500 чалавек, і зала імя Дворжака Дома мастацтваў (былы Рудольфінум) на 700 чалавек. Канцэрты наладжваюцца і ў невялікіх залах, у стыльна абстаўленых інтэр'ерах старажытных палацаў, і ў чароўных пражскіх садах і парках. Чароўнасцю канцэртаў у гэтым унікальным гістарычным і прыродным асяроддзі, перш за ўсё ў летнія месяцы, можа захапіцца кожны наведвальнік Прагі.

Зарубежных гасцей бывае даволі многа не толькі сярод канцэртнай публікі, але і сярод музыкантаў, якія выступаюць у Празе. Толькі нямногія сусветна вядомыя майстры — музыканты-выканаўцы дагэтуль не выступалі ў Празе. Большасць музыкантаў з задавальненнем зноў вяртаецца ў Прагу. Гэта, канечне, перш за ўсё таму, што ў Празе іх акружае асяроддзе, у якім значнае месца адводзіцца традыцыям і культуры. Пражская музычная публіка, а з гэтым згодны, напэўна, усе госці з ліку зарубежных музыкантаў, выключна тонка разумее музыку і ўмее гарачымі апладысментамі ацаніць вяршыню выканаўчага майстэрства. «У Празе я адчуваю сябе, — гаворыць Герберт фон Караян, — амаль як пастаянны госць... Публіка там вельмі цесна звязана з музыкай — а гэта для нас найбольшая ўзнагарода...»

Для многіх музыкантаў Прага стала трамплінам, адарваўшыся ад якога яны пачыналі галавакружную кар'еру. На першай «Пражскай вясне» ў 1946 годзе асляпляльна заззяла яркая зорка — Давід Ойстрах. Сваю бліскучую міжнародную кар'еру ў Празе пачаў Мсціслаў Растраповіч, які перамог у 1950 годзе на конкурсе віяланчэлістаў на прыз Гануша Вігана. Прага «адкрыла» і Святаслава Рыхтэра. Да ліку зарубежных музыкантаў, якія, падобна вышэй пералічаным, набылі ў Празе сваю Радзіму, адносіцца цэлая плеяда іншых майстроў, такіх, як, напрыклад, А. Бенедэці Мікеланджэлі, Г. Шэрынг, С. Чэлібідаке і інш.

Каб музычны партрэт горада быў больш поўны, дададзім, што ў Празе знаходзіцца старэйшая ў Цэнтральнай Еўропе кансерваторыя (яна была заснавана ў 1810 годзе), а таксама Акадэмія мастацтваў — вышэйшая навучальная ўстанова, якая выхавала з моманту свайго ўзнікнення (з 1946 года) дзесяткі і сотні вядомых кампазітараў, дырыжораў, інструменталістаў, многія з якіх зараз выкладаюць у яе сценах.

Але і гэта далёка не поўная характарыстыка. «Прага і музыка» — гэты раздзел, відаць, невычарпальны, ён пастаянна ўзбагачаецца. Гэта кніга, старонкі якой можна ўважліва прачытаць, бадай, толькі ў самой Празе.

**Іван ІРКО.**
(Бюлетэнь «Новости музыкальной жизни»)

# СПЯВАЕ Стэфанія ВАЙТОВІЧ



Нялёгка ў некалькіх словах расказаць пра багаты творчы шлях Стэфаніі Вайтовіч. Яна выступае ва ўсім свеце, але не забывае і пра польскіх меламанаў. Спявачка часта з большым хваляваннем расказвае пра ўдалы канцэрт у Кракаве ці ў Кашаліне, чым пра працяглае заграні́чнае турнэ...

У рэпертуары спявачкі звыш дзевяноста аратарыяльных партый, песні і рамансы польскіх і зарубежных кампазітараў. Ад Баха і Пергалезі да Брытэна, Шастаковіча і Пендарэцкага... Яна выступала ў буйнейшых канцэртных залах Еўропы, Амерыкі і Аўстраліі ў суправаджэнні 117 дырыжораў...

На думку спявачкі, сустрэчы з новымі гарадамі, з рознымі музычнымі калектывамі, дырыжорамі, новымі творамі пашыраюць артыстычныя далягляды, спрыяюць творчым шуканням на шляху да вяршынь сапраўднага мастацтва. Аб тым, якім рытмам жыве С. Вайтовіч, сведчыць, напрыклад, «геаграфія» яе цяперашніх канцэртаў. У Катовіцах з аркестрам радыёкамітэта пад кіраўніцтвам Ежы Сёмкава запісваецца на пласцінку опера Манюшкі «Галька» з удзелам С. Вайтовіч. Гэта юбілейнае выданне — да стагоддзя з дня смерці кампазітара. Разам з камерным аркестрам Варшаўскай філармоніі пад кіраўніцтвам Анджэя Маркоўскага артыстка запісала на пласцінкі творы Іагана Себасцьяна Баха; у Рыме яна выконвала «Ютрань» Пендарэцкага. Гастрольныя маршруты яе такія— Загрэб і Варшава («Асуджэнне Фаўста» Берліёза), Фларэнцыя («Dies Irae» Кшыштофа Пендарэцкага), удзел у журы чацвёртага Міжнароднага конкурсу імя Баха ў Лейпцыгу. І зноў Пендарэцкі: у Варшаўскай філармоніі прагучала яго «Касмагонія»...

Творы Пендарэцкага трывала ўвайшлі ў рэпертуары Стэфаніі Вайтовіч. Чаму? Артыстка тлумачыць гэта велізарнай цікавасцю да творчасці кампазітара, і не толькі да славутых «Страсцей», якія артыстка выконвала ўжо больш сарака разоў, але таксама і да апошняга яго твора «Ютрань». Філадэльфійскі сімфанічны аркестр пад кіраўніцтвам Юджына Армандзі зрабіў грамзапіс гэтага твора з удзелам польскай спявачкі.

— Назіраецца, — гаворыць Стэфанія Вайтовіч, — неаслабная ўвага да сучаснай польскай музыкі, да Лютаслаўскага, Бэрда, Пендарэцкага, Гражыны Бацэвіч і многіх іншых кампазітараў. Важна тое, што польская музыка трывала ўваходзіць у рэпертуар вялікіх міжнародных фестываляў, гэта пашырае сферу яе ўздзеяння.

Прыемна, што моладзь цікавіцца творчасцю сучасных кампазітараў.

Вялікі поспех выканання «Ютрані» ў Варшаве — лепшы таму доказ. З-за адсутнасці свабодных месц моладзь сядзела на падлозе, зачараваная, захопленая музыкай. Гэта чулыя і ўдзячныя слухачы...

**Здзіслаў СЯРПІНСКІ.**
(Часопіс «Польское обозрение»)

## ФЕСТЫВАЛІ СІМФАНІЧНАЙ І КАМЕРНАЙ МУЗЫКІ



На здымку — фестываль камернай музыкі ў Камень-Паморскім.
(Часопіс «Польское обозрение»).

**Амаль штомесяц адбываюцца ў Польшчы розныя музычныя мерапрыемствы. Польскія фестывалі, здабыўшы сусветную вядомасць, ператварыліся ў міжнародныя. З году ў год арганізуюцца таксама мясцовыя фестывалі (часцей за ўсё іх называюць «Днямі музыкі»), звязаныя з музычнымі традыцыямі таго або іншага раёна краіны.**

**Многія гады наладжваюцца тэматычныя фестывалі, прысвечаныя творчасці нацыянальных кампазітараў, напрыклад, фестываль імя Ф. Шапэна У Душніках-Здруі або фестываль імя Манюшкі ў Кудаве. На іншых мерапрыемствах, напрыклад, фестывалі сучаснай музыкі ва Уроцлаве, Дні камернай музыкі ў Ланьцуце або «Варшаўская восень», якая стала цяпер адным з буйнейшых міжнародных фестываляў, ацэньваюцца мастацкія вартасці рэпертуару, новыя плыні ў сучаснай музыцы або выканальнае майстэрства.**

**З усёй краіны штогод з'язджаюцца музыканты і меламаны ў Ланьцут на «Дні камернай музыкі», якія наладжваюцца ў бальнай зале Ланьцуцкага замка, што змяшчае 400 гледачоў. Вось ужо чатыры гады адзін дзень ланьцуцкіх музычных сустрэч прысвячаецца арганнай музыцы. Арганныя вечары наладжваюцца ў славутай барочнай базіліцы ў Ляжайску, дзе знаходзіцца адзін з прыгажэйшых у Еўропе арганаў.**

**Да фестываляў, як правіла, прымеркаваны навуковыя сесіі музыказнаўцаў. Так, напрыклад, «Дні камернай музыкі» ў Ланьцуце заканчваюцца навуковай сесіяй, прысвечанай камернай музыцы. Кожны такі фестываль — гэта падзея, творчы пошук, свежы струмень у музычным жыцці.**

# «Невядомы Ліст»

Венгерскі завод грампласцінак «Хунгаратон» ужо некалькі гадоў, як распачаў выпуск серыі, якая можа па праву быць названа «серыяй невядомага Ліста». Справа ў тым, што сучасныя слухачы даволі аднабакова ведаюць гэтага выдатнага наватара музычнага рамантызму, бо ў канцэртных залах выконваюцца пераважна віртуозныя п'есы для раяля і велічныя сімфанічныя творы. Між іншым, у творчасці Ферэнца Ліста значную ролю адыгрывае жанр араторыі. Наўрад ці яго славутыя «Чардаш макабр», «Венгерскія гістарычныя партрэты», «Віа круцыс» і «Оса арыда» маглі быць створаны без папярэдніх «Псалмаў», Эстаргомскай і Каранацыйнай імшаў, без «Легенды аб святой Эржэбет» і араторыі «Хрыстос». Адзін з запісаў студыі «Хунгаратон», дзе ёсць «Псалмы» і «Харальная імша» Ліста, атрымаў за кароткі час два міжнародныя прызы: Акадэмі Шарль Кро і Акадэмі дзю Дыск Франсэ...

Адначасова з выхадам пласцінак выдавецтва «Музыка» падрыхтавала да друку партытуру араторыі «Хрыстос», якая вымагае вялікага выканальнага майстэрства: яна велічная не толькі маштабам, а і складанасцю яе дырыжорскага асэнсавання. Твор з чатырнаццаці частак Ліст ствараў на працягу трынаццаці гадоў, выправіўшы яго ў канцэртную дарогу з наступнымі словамі: «Хто мяне зразумеў, той і палюбіў... Калі і дзе выканаюць мой твор, мне ўсё роўна. Яго стварэнне было няўмольным патрабаваннем маёй душы. Цяпер я спакойны, бо напісаў яго».

Дырыжор Міклаш Фараі ў моцнай і выразнай інтэрпрэтацыі стварае глыбокае адзінства трох крыніц музычнага матэрыялу араторыі: грэгарыянскае спяванне, рэнесансную мадальную гармонію і своеасаблівасць індывідуальнай мовы Ліста. Пад узмахам дырыжорскай палачкі з наіўнай пашанай гучыць пранікнёны гімн у выкананні дзявочага хору, які па жаданні кампазітара трэба выконваць з «нябачнага месца». Міклаш Фараі, выкладчык музычнай акадэміі імя Ферэнца Ліста, у сваёй рабоце над творчай спадчынай кампазітара галоўнай мэтай ставіць асэнсаванне, апрацоўку і выкананне яго твораў для хору.

У запісе араторыі ўдзельнічалі такія сусветна вядомыя калектывы, як Венгерскі дзяржаўны аркестр, Будапешцкі хор і Хор дзяўчат імя Золтана Кодая. Сярод спевакоў-салістаў трэба асобна адзначыць выдатнага тэнара Йожэфа Рэці і спявачку Еву Андар, чый




талент быў адкрыты самім Золтанам Кодаем.

Стэрэазапіс араторыі выпушчаны ў трох пласцінках, да якіх у мэтах лепшага азнаямлення прыкладзена брашура з тэкстам на трох мовах. Пры афармленні верхняй вокладкі канверта была выкарыстана карціна вядомага венгерскага мастака Міхая Мункачы «Хрыстос перад Пілатам».

У Парыжы гэты запіс араторыі, пададзены на конкурс, у якім удзельнічалі чатыры тысячы грампласцінак амаль з усіх краін свету, атрымала прыз «Залатога Арфея» за 1971 г. Гэта штогадовая прэмія прысуджаецца ў выглядзе залатога і сярэбранага прызоў самым выдатным вакальным запісам. Такая высокая і заслужаная ўзнагарода — самая лепшая рэкамендацыя твора «невядомага Ліста».

**Марыя КЕРЭНІ.**
(Часопіс «Венгерские новости»)

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ




— Пад маёй ідэяй грунтоўны фундамент.




Спаборніцтва на меткасць.




— Учора на падпітку я заснуў на шашы, дык, відаць, паясніцу застудзіў, баліць...

Мал. М. ЧАРНЯЎСКАГА.

Э. ПЕРАЦ

## РЭКС НА СНЕЗЕ

ПІСЬМЕННІК Гаўрыла Нудотны быў крыху падобны на Флабэра. Гэтак жа, як і вялікі француз, ён пісаў па начах, і амаль да самай раніцы яго акно служыла маяком для ўсіх, хто па якой-небудзь прычыне не мог разабрацца, дзе правы, дзе левы бок вуліцы. Аднак рэдактары чамусьці не дужа ацэньвалі гэтую асаблівасць творчасці Нудотнага. Нават больш таго.

— Вы што, задаліся мэтай канчаткова завэдзгаць наш часопіс? — сказаў галоўны рэдактар «Зялёнай руні», вяртаючы Нудотнаму яго шостае апавяданне з цыкла «Ноч на свінаферме». — Ужо калі вы прыносілі трэцюю «ноч», я рашыў вас не друкаваць. Даў дзве «ночы», а больш не магу. І чытач не можа...

— Дык што ж тады вам трэба? — спытаў Гаўрыла, хаваючы ў папку рукапісы. — Можа дэтэктыў? — іранічна дадаў ён.

— А хоць бы і так! — горача ўсклікнуў рэдактар. — Сучасны герой і ў дэтэктыве можа быць сучасным. А чытач, між іншым, дэтэктывы любіць...

Успамінаючы гэтую ранішнюю размову, Гаўрыла Нудотны цяжка ўздыхнуў, адсунуў убок нясконачаны рукапіс сёмай «ночы» і сумна паглядзеў у акно. На двары павольна, нават нібы з лянотай, падаў снег.

— А снег ідзе... — сказаў сам сабе пісьменнік, разглядаючы чорнае галлё бэзу, за якім шарэла сцяна хлява, дзе рохкалі абодва героі яго «начэй», высокі плот, што агароджваў прасторны сад, і... І тут раптам сэрца Гаўрылы Нудотнага на момант спынілася, а пасля шалёна скокнула аж да самага горла. Ён убачыў сляды. Свае ўласныя сляды на снезе. Яны вялі ўздоўж парэчак паміж разгалістых яблынь у самы кут саду, потым вярталіся назад. Па гэтых слядах задумліва валок ногі Рэкс — сляпы дварняга, вартавы пісьменніцкай брамы.

— Сляды на снезе!.. Так, сапраўды, мой двор — невычэрпны! — радасна прашаптаў Гаўрыла і кінуўся да тэлефона.

— Я слухаю, — адгукнуўся рэдактар.

— Так і быць: аддам вам свае сляды на снезе,— нібы пасля доўгага вагання гучна паведаміў Нудотны.

— Што? Якія сляды? — не адразу зразумеў рэдактар.

— Я кажу: магу даць вам сваю новую прыгодніцкую аповесць пад назвай «Сляды на снезе»! — паўтарыў пісьменнік. — Для ўздыму тыражу...

Праз паўгадзіны Гаўрыла Нудотны бадзёра адгрукаў першую старонку новай аповесці. Яна пачыналася так: ,

«Снег ішоў увесь дзень і амаль усю ноч. Сляды на снезе канчаткова згубіліся, і нават вопытны Рэкс не мог адшукаць іх сярод калючай блытаніны хмызняку.

— Справы дрэнь... — глыбакадумна заўважыў Рысканаў, звяртаючыся да свайго маладога памочніка, якога ўвесь крымінальны аддзел называў няйначай, як румяным Мішам...»

Закладваючы пад ролік машынкі дзесятую старонку, якая адводзілася дэталёвай распрацоўцы характару Рэкса, пісьменнік гукнуў жонку і загадаў, каб яна паслала на двор Анэльку падражніць сабаку.

...Гаўрыла Нудотны быў крыху падобны на Флабэра Ён таксама пісаў па начах і іншы раз нават з натуры. Усю ноч у двары пісьменніка ішоў снег, свяціла акно і брахаў галоўны герой яго новай аповесці.

З НЕНАДРУКАВАНАГА

**У рэдакцыю «Літаратуры і мастацтва» паступае шмат рэцэнзій на кнігі, спектаклі, кінафільмы. Часам усім ім проста не хапае месца на першых пятнаццаці старонках. Таму я прапанаваў некаторыя з іх даваць на шаснаццатай старонцы. Клянуся аўтарам не мяняць у іх ніводнага слова, калі што і дазволю сабе, то толькі купюры. Адзіная нязручнасць для рэцэнзентаў 16-й старонкі: ганарар ім будзе выплачвацца ў тым выпадку, калі яны прышлюць пісьмовы дазвол на публікацыю сваіх прозвішчаў.**

Аўдзей САМАСЕЙ

## «БЕЗ ЛІНГВІСТЫЧНАЙ ПЕРАГРУЗКІ»

...На першы погляд, у зборніку паэта Н. няма нічога асаблівага. Вершы як вершы. Здаецца, і радкі звычайныя, як дні нядзелі, калі яны нічым не азначаны і вельмі падобны адзін на аднаго... Але прачытаўшы іх уважлівей, бачым іх лірычнага героя не ў позе шэрага фразёра і пустамелі, а ў задуменна-разважлівым стане, можа і з крыху нахмураным тварам, затое аптымістычна настроеным.

...У зборніку ёсць дзве кварты вершаў «з народнага». Напісаны яны белым вершам. Праўда, верлібраў у Н. нямала, але гэта ніколечкі не памяншае значэння зместу.

...Імкненне да народнасці само па сабе апраўданае і заканамернае. Аднак часам такая народнасць раствараецца ў агульным марыве паэтавых знаходак, трацячы сваю ўласцівасць, красамоўнасць і прыгажосць беларускага фальклору. У вершах Н. яна празрыстая, чыстая, з адценнем мілагучнасці і задушэўнасці. І ад белых гусей, і ад шэрай зязюлі, і з лесу цёмнага павявае свежым ветрыкам вясковай непадобнасці на гарадскі асфальт.

...Нямала ў кніжцы і лірычных замалёвак, так сказаць, з натуры. Але і ў прыродаапісальных вершах адчуваецца рука мастака, які не проста мазкамі здалёк, не подбегам пераносіць на тканку верша галінкі ці птушак, а надаючы агульнаму фону асобны каларыт і змястоўнасць, дабіваецца пераліву птушынага спеву і шапацення лісцяў так, што перад чытачом паўстае поўная пейзажная карціна, хоць і эпізадычная, затое з усімі светаценямі і адценнямі.

Цішыня ў Н. не замарожана-насцярожаная, а тая, што раптам страсяне ад сну і фаўну і флору, абудзіць у надзённае жыццё ўсіх насельнікаў планеты. Удалы верш, без выбуховай нечаканасці і асляпляльнай фанабэрыстасці.

...Каб быць сапраўдным паэтам, даносіць да чытача слова ў поўнай яго аб'ёмнасці, трэба ўмець не толькі рыфмаваць і «рытмаваць» радкі, але і надаваць ім своеасаблівае гучанне ўласцівае паэту як асобе.

...Вершы Н. чытаюцца лёгка, без лінгвістычнай перагрузкі: Патрыятызм і грамадзянская лірыка іх гучаць ва унісон з паэтавымі пачуццямі і перажываннямі.

...Я асабіста прачытаў зборнік Н. з вялікім задавальненнем.

**Аўдзей САМАСЕЙ: Спадзяюся, што і чытачы «Трасянкі» прачыталі гэтую рэцэнзію з пэўным задавальненнем.**

Станіслаў ШУШКЕВІЧ

## У ПАГОНЮ ЗА МАЛАДОСЦЮ

Здалёк далятае звонкі смех.
Зноў і зноў паскараю бег.
Кажу не жартам.
Я не маню:
— А можа раптам
І дaганю!?

Аляксей ЗАРЫЦКІ. «А можа?..»

**Як ні бяжы, хіба ж, паэт,**
**Ты маладосць дагоніш!..**
**Набыў бы лепш сабе мапед**
**Для гэткае пагоні.**

**Калі ж адчуў, што ты ўжо дзед,**
**На «Волгу» выдай грошы.**
**Пяшком не прыся ў далеч-свет**
**І не дзяры галёшы.**

## У СВЕЦЕ ЖЫВЁЛ І РАСЛІН

*Вечны клопат Зязюлі — знайсці прыстойную няньку Варону з кватэрай.*

□

*— Моцна абняць Труса пры сустрэчы — мая слабасць, — прызнаўся Удаў.*

□

*— Перасадзіце мяне на новае месца, — прасіўся Дубовы пень. — На старым — аніякага росту.*

□

*Аб'ява ў лясной газеце: «Мяняю сваю скуру на авечую. Воўк».*

І. ДАШЧЫНСКІ.

Адам АСНЫК

## ЖАБЫ

**Жабы, як вядома, любяць жыць**
**у багне,**
**Выскачыць якая — зноў вярнуцца**
**прагне.**
**І хоць лёс прымусіць часам**
**да вандроўкі,**
**Лужыну натрапяць —**
**месца для начоўкі.**
**А дамоў прыскачуць — квакаюць**
**з ахвотай:**
**Як і ў нас, усюды гэткае балота.**

**Ёсць таксама людзі, — ім увідавоку**
**Лужынай здаецца цэлы свет шырокі,**
**Бо куды ні глянуць —**
**высока ці нізка —**
**Адно толькі бачаць:**
**багнішча-багніска.**
**Наракаюць людзі, адвяргаюць**
**людзі —**
**Толькі бачу ў іх я неістотных**
**суддзяў.**
**Пра іх мая думка: бы жабы,**
**з ахвотай**
**Любяць яны ўсюды вышукваць**
**балота.**

Пераклаў з польскай
Васіль ГАЦАНОВІЧ.

По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.
Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33 25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 32-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.



Індэкс 63856 АТ 01967